

Эліза КАЗІМЕРУК →3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Пра-дом прадам →5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 20 (3340) Год LXV — Беласток, 17 мая 2020 г. — Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# Скарбы ў малой царкве

Уршуля ШУБЗДА

**Самагруд — невялікая вёска з невялікай царкоўкай, але багатай гісторыяй і, як аказалася, абсталяваннем. У парафіі, якая зараз налічвае каля двух соцень прыхаджан, пры польска-беларускай мяжы знайшлі тры ўнікальныя іконы. Гэта іконы *Збавіцеля Свету*, *Дванаццаці святаў* ды *Св. Прарока Ільі і Марыі Егіпцянкі*. Магчыма, калі б не каранавірус, ніхто ніколі не адкрыў бы прыгажосці намоленых ікон, перад якімі мясцовыя пакланяліся стагоддзямі.**



**“А ты супакойся” — каранавірус прыгнаў на радзіму**

У часы, калі падарожжа ў Рым ці Святую Зямлю займае толькі некалькі гадзін, людзі маюць магчымасць дакрануцца да месцаў, якія, прынамсі так магло б здавацца, узмацняюць дух. Перш за ўсё для маладога пакалення, якое ведае мовы, межы амаль не існуюць. У час „заваёвы свету” і фейсбука, дзе асоба, якая не ўмее зрабіць яечні, можа выкласці здымак, з якога відаць як захапляецца селядцом у труфелях і яго вытанчаным смакам, свае каштоўнасці берагуць пенсіянеры. За свае сціплыя грошы рамантуюць невялікія царкоўкі і касцёлы, сваімі ўжо крыху зношанымі жыццём галасамі, услаўляюць Бога, спяваючы ў малых парафіяльных харах.

Едучы са Слойкі ў бок Саколкі, направа можна павярнуць на Самагруд, а налева на Вярхлессе. Менавіта тут стаіць царква, якую пабудавалі з дзерава ўніяцкай царквы, якую пасля паўстання 1863-1864 гадоў разабралі ў Самагрудзе. Зараз яна атынкаваная дзякуючы клапатлівым прыхаджанам.

— Наш бацюшка вельмі стараецца і ўсяго даглядае, — кажа жыхарка Вярхлесся спадарыня Валя. — Мы заўсёды, калі толькі трэба, складаемся на рамонт. Колькі хто можа, столькі дае.

У Вярхлессе я заехала напярэдадні свята Юрыя, дзе таго дня адзначаецца царкоўны фэст. Жанчыны ўжо рыхтаваліся — прыбіралі, мылі надмагіллі, якія стаяць пры царкве. Ва ўваскрэсенскі перыяд вярхлескія прыхаджанкі вітаюцца не словамі „Добры дзень”, а „Хрыстос воскрэсе”.

— У нас на такое свята заўсёды поўна людзей было ў царкве, але зараз невядома як будзе, бо той каранавірус, — кажа спадарыня Валя. — Мае дзеці і ўнукі раз'ехаліся па ўсім свеце. Як пачаўся той вірус, я вельмі за іх перажывала, але дзякуй Богу вярнуліся і здаровыя.

Людзі, якія штодзень займаюцца сваімі разнастайнымі справамі, у тым духоўнымі, па прычыне сваіх дзяцей і ўнукаў, якія раскіданы па ўсім свеце, маюць новыя клопаты і з-за гэтай хваробы. Аднак далей робяць тое, што трэба: моляцца, садзяць бульбу і гародніну ды чакаюць плёну. Філасофія жыцця на Сакольшчыне крыху нагадвае філасофію ўраджэнца Віцебска Міхаэля Лайтмана, заснавальніка і кіраўніка Міжнароднай акадэміі кабалы і Інстытута даследавання кабалы імя Й. Ашлага, які раіць, у вялікім скарачэнні, супакоіцца і пасядзець.



**Пачалося ад таго, што чалавек заблудзіўся**

З узнікненнем храма на гэтых землях таксама звязаная небальная легенда. Тагачасны бізнесмен, а магчыма гэта было ў XV стагоддзі, вяртаючыся на ўсход заблудзіўся ў чарнарускай дзічы. Не маючы ўжо надзеі на паратунак, прысягнуў сабе і Богу, што калі здарыцца цуд і яму ўдасца неяк выйсці з гэтай глушы, пабудуе тут храм на хвалу Пана.

— Вядома, як трывога то да Бога, — падвеў першую частку легенды настаяцель Петрапаўлаўскага прыхода ў Самагрудзе айцец Адрыян Харытанюк. — Знайшлі яго мясцовыя людзі і паказалі дарогу. І сапраўды, калі ён вярнуўся дамоў, даслаў сюды ікону св. Сяргея.

Часам цяжка вылавіць праўду з легендаў, але гэтая ікона і зараз упрыгожвае іканастас у самагрудскай царкве. Святы Сяргей шанаваны і ў Праваслаўнай царкве, і ў Каталіцкім касцёле. Святы Сяргей, родам з Антыёхіі, які стаў папам рымскім, за час свайго пантыфікату (687-701) адрамантаваў і абсталяваў Базіліку св.св. Пятра і Паўла, а таксама ўвёў звычай спявання *Agnus Dei* — Ягня Божае, а да літургічнага календара — свята Маці Божай Грамнічнай. У Праваслаўнай царкве св. Сяргей Раданежскі (1314-1392) ушаноўваецца як манах Рускай царквы, які заснаваў Траецкі манастыр пад Масквой (цяпер Троіца-Сергіева лаўра). Лічыцца ён аднаўляльнікам манаства ў Паўночнай Русі і найвялікшым падзвіжнікам Зямлі Рускай.

Не толькі ікона, але і грошы бізнесмена з усходу паспрыялі пабудове першай царквы ў Самагрудзе. З 1713 па 1733 год ужо ўніцкай царквой апекаваліся Казімір і Зузанна Вішчынскія, якія з'яўляліся ўласнікамі маёнтка Уснар[1]. Іхні сын Кароль нават планаваў стварыць тут аддзяленне Супрасльскага базыльянскага манастыра, але гэты намер не здзейсніўся, бо Караль памёр. Побач царквы ў Самагрудзе знаходзіцца магіла, якая для некаторых нагадвае магілу Цэцыліі і Яна з аповесці „Над Нёманам” Элізы Ажэшкі. Гэта месца спачыну Казіміра і Зузанны. На магіле фундатараў уніяцкага храма знаходзіцца надпіс: „Tu leżą grzesznicy Kazimierz y Zuzanna Kanimierow-Wiszczyńscy, rok zejścia 1733”.

[1] G. Rąkowski, *Polska egzotyczna*, t. 1, Pruszków 2019.

чытайце ☞ 10



9 770546 196017



# Кантрабандыст у адпачынку

Яшчэ зусім нядаўна лічылася, што кантрабандыст гэта ледзьве не адзіная прафесія, якая не прадугледжвае законнага адпачынку. Што трэба кантрабандысту? Мяжа. Ёсць мяжа, ёсць работа. Які тут адпачынак?! Гэта як для селяніна пасяўная ці ўборачная. Ні дня без працы. Касі каса, пакуль раса...

Ну, а калі без жартаў, то сітуацыя выглядае дакладна так, як і з жартамі. Пакуль працуе мяжа, датуль працуе і беларускі так званы кантрабандыст. Чаму так званы? Ды таму, што ён, як і ўсё ў нас, не да канца сапраўдны. Сапраўднаму кантрабандысту няма перашкоды. Зачыненая мяжа, ці адчыненая, розніцы аніякай. Сабраўся і пайшоў упоперак. А вось большасць беларускіх кантрабандыстаў — людзі вельмі законапаслухмяныя, як і большасць беларусаў увогуле. Нацыянальная забава ёсць такая: закону трымацца. Таму як мяжу зачынілі з прычыны пандэміі, кантрабандысты перасталі яе парушаць. Таму што нельга.

Медалі за законапаслухмянасць ім, вядома ж, ніхто не дасць, ды і нічога не дасць. Ні гроша за згубленую працу кантрабандыст не атрымае. Зрэшты, так як і кожны іншы беларус, які заробкі згубіў у гэты цяжкі перыяд. А жыць то нейк трэба. Бо як зачынялі межы, то здавалася, што ненадоўга. І некаторыя нават узрадаваліся першаму ў жыцці адпачынку. Але адпачынак добры толькі тады, калі ёсць за што адпачываць. А беларускі кантрабандыст тым і адрозніваецца ад сапраўднага, што запасаў вялікіх не нажыў. І што цяпер?

Вось адзін мой знаёмы вазіў штодня ў Польшчу пару пачак цыгарэт ды літр алкаголю, назад адзене на сябе некалькі пар джынсаў, прадасць іх тут, з таго і жыў. Па дарозе дадатковы заробак сабе прыгледзеў. Заўважыў, што ў Польшчы цэгла таннейшая. Ну то купіць з дзясятак цаглін, раскідае па машыне і вязе ў Беларусь. Мытнікі ды памежнікі думаюць, што дурань. А ён прыедзе дахаты, дастане цэмент і кожны дзянёк па пяць дзесяць цаглінак дабаўляў да сцяны. З гадамі і цэлы дом збудаваў, двухпавярховы, цагляны. А навакольныя тады загаварылі, што кантрабандысты добра зарабляюць, калі такі асабняк узвесці атрымалася. Толькі як прыйшла пандэмія і межы зачынілі, тады і скончыліся штодзённыя паездкі праз мяжу. Аказалася, што нават месяц пражыць на зберажэнні ад так званай кантрабанднай дзейнасці складана. Прыйшлося ўладкавацца на дзяржаўную працу з вельмі нізкім заробкам, з чаго вельмі задаволены. Бо не ўсім так пашанцавала. Такіх прац на ўсіх кантрабандыстаў не хапае.

Кінуліся кантрабандысты і ў таксісты. Прафесіі ўзаемазамяняльныя. Многія кантрабандысты былі таксістамі і наадварот. Толькі вось каму стольк і таксістаў патрэбна?! Раней кантрабандысты былі часамі і пасажырамі таксі. А зараз, дзе ўзяць столькі пасажыраў. Таму кідаюцца ў пошуках заробку, хто куды можа. Але ніхто іх там не чакае.

Ну то паехалі яны па ўсёй сваёй радзіме Беларусі, бо ў іншыя краіны патрапіць немажліва. І пераважна ездзілі да бацькоў на вёскі ды да сябе на лецішчы, што ў каго ёсць. І сталі варочаць зямлю ды садзіць бульбу і іншую расліннасць, каб у выпадку чаго нейк з сям'ёй пракарміцца. Праца на зямельцы ў беларусаў на ўзроўні генетычнай памяці. І праз шмат пакаленняў навыкі не губляюцца. Таму ёсць надзея, што можа і пракормяцца.

Ну а тыя, што і кавалачка зямелькі не маюць, глядзяць на сітуацыю з жахам. І пакуль у лясах яшчэ грыбы не павылазілі ды ягады не выспелі, сядзяць удоўж Нёмана з вудачкамі. Выжыць за кошт прыродных рэсурсаў — гэта ў беларусаў таксама рыса генетычная. Толькі рэсурсаў становіцца ўсё менш. Ну дык гэта праблема агульначалавечая.

Тыя, у каго ёсць карта паляка, ужо падрыхтаваліся пры першай мажлівасці пераехаць у Польшчу, адсядзець там належны каранцін і пасля ў Польшчы ўладкавацца на працу. Хоць на якую. Карта паляка гэта дазваляе рабіць і яе вартасць зараз вырасла ў разы. А ў параўнанні з беларускімі дакументамі, то і ў дзясяткі разоў.

Ну а астатнія жывуць спадзяваннем, што мяжу хутка адчыняць. І тады, законна, з тымі парушэннямі закону, якія таксама нейкім чынам можна палічыць законнымі, яны зноў паедуць пратаптанымі маршрутамі да ўсталяванага гадамі памежнага жыцця.

Ну а пакуль што вось такі адпачынак: кантрабандны. Згодна з прафесіяй.

**Віктар САЗОНАЎ**

# А куку?



Мая бабуля заўсёды рабіла мне жартачкі. Сардэчныя, не дакучлівы, ніколі непрыемныя ці злосныя. Калі я думаю пра іх сёння, я ведаю, што яны былі для гэтай стомленай, да косці прыбітай нягодамі жыцця жанчыны, суровай праявай самай высокай пяшчоты. Несумненна, жартачкі маёй бабулі пакінулі на мне незрыўны след. І тыя, якія я перажыў на сабе, і тыя, што з'яўляліся ў яе апавяданнях. Як у тым пра габрэя Езэкііля, балагула, сябра бацькоў, які папрасіў напіцца вады. Бабуля, тады падраставшая дзеўка, дала яму шклянку вады... свянцонай, цікаўная, ці, як казала антысеміцкая чутка, выскачыць з яе сапраўдны д'ябал. Ён не выскачыў. Езэкііль пакаштаваў смачную ваду і прыгожа падзякаваў дзяўчыне. Было ж да смеху, калі збянтэжаная бабуля прызналася ў сваёй «хітрасці», і Езэкііль, прыклаўшы пальцы да галавы, спачатку паказаў ім сапраўдныя рожкі д'ябла, а потым сказаў нешта недарэчна мудрае. «А куку!». Я думаю, што гэтая падзея стала для бабулі своеасаблівай ілюмінацыяй: каб прызнаць штосьці сапраўдным, спачатку трэба паказаць, што гэта не фальш. Ці гэта не парадаксальна гучыць?! Толькі тое, што праўда, якая не пацверджана гэтай кагнітыўнай логікай, на самой справе з'яўляецца толькі догмай, ілжывай ці сапраўднай. Проста гэта перакананне, якое маем альбо яго няма. Іншымі словамі, гэта не можа лічыцца ісцінным альбо ілжывым. Дзякуючы ўроку з Езэкіілем бабуля неяк выйшла з гэтага дагматычнага круга. І, я думаю, яна таксама паспрабавала адкрыць мне гэтыя веды. Калі мне станавілася сумна, бабуля асвятляла мой твар усмешкай. «А куку!» — прамаўляла сур'ёзна ў той час, хаця ў яе шэрых вачах былі сонечныя ўспышкі. Аднак, калі я раззлаваўся, яна асцярожна пракалвала наявінным свавольствам раздуты паветраны шарык маіх дрэнных эмоцый і неўзабаве, суцешаны дасціпным жартам, я зноў чуў ейнае «А куку!», мудрае паведамленне, поўнае добразычлівага цярпення, што жыццё чалавека па сваёй прыродзе з'яўляецца суцэльным перапляценнем дрэнных і добрых падзей, і што па гэтай прычыне нельга прыкладваць лішне меркі да любой з іх. Таму, калі я развітваўся на нарваўскіх могілках з маёй бабуляй, якая пражыла амаль сто гадоў, раптам пачуў яе вялікадушнае «Куку!», што ўзнялося над жалобнай літургіяй і жалобнымі прамовамі. «А куку» маёй бабулі. А была ж позняя восень...

Прыведзены вышэй успамін, верагодна, застаўся б толькі прыгожай, хаця і нерэальнай памяткай, калі б не вярнуўся ў рэальнасць і не стаў цалкам новай, хаця і не абавязкова аптымістычнай падзеяй. Я б не назваў гэта «пісікусам». Вось у маёй вёсцы, у яе цэнтры, быў павешаны адзін з кандыдатаў у прэзідэнты. І гэта было б трывожным актам грамадзянскага самасуду, калі б не той факт, што пацярпелы вісеў у выглядзе электаральнага транспаранта — вялікага палатна, расшпіленага на драўлянай агароджы. Тым не менш, гэтая падзея як факт была трывожная ў любым выпадку. У шматвяковай гісторыі вёскі ніхто такім чынам сябе не заявіў. Так, палітычная прапаганда яе не мінала. Яна з'яўлялася ў ёй як трывіяльныя перадвыбарныя плакаты, прыбітыя да сельскай дошкі аб'яў, і лістоўкі, якія пярэсцілі электрычныя слупы. Дошка аб'яў нічыя і стаіць на нейтральнай зямлі. Электрычныя слупы таксама не чыесьці. Так што мая праваслаўна-каталіцкая вёска да тых дошак і слупоў адносілася з цярплівасцю, дасціпна-ўспрымальнай, як да любой улады, якая ўпярэшчвала чалавечае жыццё тымі плакатамі і лістоўкамі, якія ўрэшце завальваюць вясковую вуліцу. Пасля іх ніхто не прыбірае. Сутнасць правільнага стаўлення вёскі заключаецца ў яе трыванні, арыентаваным не на «тут і цяпер», а на будучыню, якая, у рэшце рэшт, абумоўлена дбайным кіраваннем вопытам мінулых пакаленняў, выбарам, зробленым у сучаснасці. Палітыка не ўпісваецца ў гэтую перспектыву. Таму вёска ажыўлена каментуе гэта, але пазбягае пустых дэкларацый. З іншага боку, сцяг, прымацаваны да «чыёй-небудзь» агароджы, з'яўляецца зусім іншым пытаннем, гэта дэкларатыўная палітычная маніфестацыя пэўнага суседа, які ўдзельнічае ў суседскіх альянсах і антаганізмах, што, відавочна, стварае канфлікты, якія тляцца ў кожнай грамадзе. Гэта цалкам супярэчыць шматвяковай палітычнай практыцы вёскі, якая дзякуючы мультыкультуралізму выпрацавала механізмы талерантнасці і ўзаемнай павагі, ухіленняў і прамоўчванняў, каб перажыць усялякія царызмы, санацыі, нацыяналізмы, акупацыі і сацыяльныя эксперыменты ды палітычная трансфармацыі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Старасць не радасць

Падарожжы ў родныя мясціны і на такія ж самыя парафіяльныя могілкі нагадваюць яшчэ адну праўду пра наша жыццё і праміннанне. Часта ў жыцці дзецям і ўнукам прыходзіцца займацца больш пільна сваімі бацькамі і дзядулямі ў сувязі з усімі хваробамі, якія прычапіліся да іх арганізмаў. Вядома, тут сваю немалую ролю адыгрывае і старасць, з якой раней ці пазней прыходзіцца сябраваць кожнаму з нас. „Прычапілася і не хоча адчапіцца", — добра памятаю са свайго дзяцінства такія выказванні сямейнікаў, калі хтосьці доўга хварэў. Узгадваю таксама і такія расказы, асабліва зімовымі вечарамі, ад якіх дрыжыкі беглі па ўсім маім целе, калі ішла гаворка пра выкінутых дзецьмі з родных дамоў сваіх знясіленых старэчаў. У мінулым, у час беспенсійнага дагадоўвання старыкоў, карміць і наглядаць за імі многім выдавалася патратай яды і часу. Літаратура і народныя казкі поўныя такіх гісторый. А прымаўка „старасць не радасць" — універсальная і вечная. Прыпамінаю таксама пачутыя „жарты", калі сяляне пачалі атрымліваць свае невялікія пенсіі, што ў гаспадарцы больш прыбытковым з'яўляецца мець двое пенсіянераў, чымсьці гадаваць двух вепрукоў. Патрэба апекі, часта над паралізаванымі блізкімі, заўсёды патрабавала і патрабуе ангажаванасці ўсёй сям'і. Са свайго сямейнага досведу памятаю апеку над паралізаваным некалькі гадоў святой памяці дзедам Мікалаем, дзе кожнаму — ад дзяцей да дарослых — былі вызначаны гадзіны і абавязкі іхніх з ім заняткаў. Сваё значэнне ў шматвяковай гісторыі дапамогі мае хрысціянскі імператыў, які ў старым і новым запавеце ўказвае ролю сямейных каштоўнасцей у чалавечым жыцці. Дачакацца дзяцей і ўнукаў гэта адзін з важных фактараў чалавечага існавання на зямлі. Тэма старасці і пашаны да яе адлюстравана вельмі выразна ў чацвёртай запаведзі Гасподняй, дзе ясна сказана шанаваць сваіх бацьку і маці. У кнізе мудрасці Сіраха напісана: „Хто шануе Бацьку, доўга жыць будзе", ці „Сівы волас аздобнай каронай". Паслухмянасць і пашана для бацькоў у біблейскай традыцыі патрабуе ад іх нашчадкаў пазбягаць такіх паводзін, як упартасць, насмешлівасць, зняважлівасць, абкраданне, збіванне і таму падобныя адносіны. Падтрымліваць бацькоў у іх старасці да апошніх дзён патрабавалася з усімі іх хваробамі, напрыклад з дэменцыяй, якая вядзе да распаду псіхічных функцый. Генеральна Біблія ўсхваляе старасць, нягледзячы на ўсе адмоўныя моманты гэтага перыяду жыцця. Векавы ўзрост — здзяйсненне Божае ласкі. Прыгадайма тут евангельскую прытчу пра старца Сімяона, які праз малітву выказвае сваю ўдзячнасць Богу за ім пражытае. За апошнія дзесяцігоддзі ў еўрапейскіх грамадствах змяніўся падыход да людзей у пажылым узросце і да іх месца ў грамадстве. Старэйшым людзям вызначана часта месца на абочыне сямейных і грамадскіх працэсаў. Працягласць жыцця, глабалізм, айчынныя і замежныя міграцыі, празмерна развінуты канзумерызм часта прыводзяць да разрыву чалавечых супольнасцей і каштоўнасцей. Адной з набрынялых праблем развітых дзяржаў стала дэмаграфічнае пытанне, у тым ліку што рабіць са старымі і хворымі людзьмі. Толькі гандлёвыя сеткі і парабанкаўскія ўстановы бачаць у іх яшчэ сваіх, пастаянна скарыстаных кліентаў. Цывілізацыйныя патрабаванні і выклікі сталі штуршком для паспяховага развіцця герыятрычнай сістэмы апякунства, так дзяржаўнай, як і прыватнай. Настроеныя на хуткае жыццё грамадствы вырашылі масава пасылаць сваіх бабуль і дзядуляў у дамы спакойнай старасці ці сацыяльнай дапамогі. У Францыі ў такіх прытулках жыве 700 тысяч пенсіянераў, у Нямеччыне — 830 тыс., у Вялікабрытаніі — 400 тыс., у Іспаніі — 380 тысяч. Кошт сутачнай пабыўкі ў такіх дамах высокі, але людзі і так плацяць. Цяпер у сувязі з каранавірусам менавіта пенсіянеры ў такіх дамах у найбольшай ступені плацяць там сваім жыццём. Аднак аб'явы ў польскай прэсе надалей шукаюць ахвотных да працы ў якасці апякунак у Нямеччыне, ці Англіі. У рэаліях сённяшняй Польшчы, ці Падляшша бачым узрастаючае запатрабаванне на герыятрычную медыцыну і годную, доўгатэрміновую апеку над прыкутымі да ложка. Аднак якасць паслуг некаторых дамоў сацыяльнай апекі абдзірае нямоглых старэчаў з чалавечай годнасці. Старасці дажыве кожны з нас. Толькі дзе і ў якіх умовах...

**Яўген ВАПА**

Настаўнікі роднай мовы

# Кожны вучань, кожны ўрок, кожны праект — гэта асобныя, непаўторныя хвіліны

**Эліза КАЗІМЕРУК** (з дому Дудэль) нарадзілася 3 мая 1983 года. Закончыла Пачатковую школу ў Чаромсе-Вёсцы (класы 1-3) і Чаромсе-Станцыі (кл. 4-8). Далей вучылася ў Гайнаўскім белліцэі, пасля якога паступіла на факультэт усходнеславянскай філалогіі Універсітэта ў Беластоку. Восем гадоў займалася сямейнай гаспадарчай дзейнасцю, ды ад чатырох гадоў працуе настаўніцай беларускай мовы і лагапедам у Школьна-дашкольным комплексе ў Чаромсе. Адзін год працавала таксама настаўніцай беларускай мовы ў Дубічах-Царкоўных. Жыве ў Чаромсе з мужам Андрэем і дзеткамі — Марысяй (13 гадоў) і Філіпам (6 гадоў). Яе жыццёвы дэвіз: «Ніколі не падаць духам і не здаваць сваіх пазіцыі, дбаць пра сваё развіццё і безупынна адукавацца». Эліза Казімерук зараз студэнтка спецыяльнай педагогікі. Яе хобі — падарожжы і кніжкі, а таксама свет жывёл — тых, што жывуць у гаспадарцы, як і тых хатніх, як іхняя котка Тося.



**— Чаму Вы сталі настаўнікам беларускай мовы?**

— Калі я закончыла беларускую філалогію на Беластоцкім універсітэце, я не думала, што хутка пачну працаваць у школе. У мяне пачаўся праект «Сям'я». Але варта было чакаць дзевяць гадоў: калі на свет прыйшло двух «урвісаў», я атрымала прапанову працы ад спадарыні дырэктар школы ў Чаромсе. Вось ужо чатыры гады працую настаўніцай беларускай мовы і школьным лагапедам.

**— Хто для Вас ідэал настаўніка роднай мовы?**

— Ідэал — пытаецe?.. Думаю, што няма такіх людзей. На сцежках свайго жыцця я спаткала мноства людзей і ад кожнага з іх вучылася чагосьці новага і цэннага. Думаю, што калі б не Аліна і Аляксандр Лаўрыновічы, маё жыццё і сцежкі, якімі я пайшла, былі б іншыя.

За тое ім вялікае дзякуй!

**— Ці супрацоўнічаеце з настаўнікамі беларускай мовы ў іншых школах? Калі так, назавіце сваіх сяброў.**

— Як „малады" настаўнік, у мяне было мноства пытанняў. Амаль усе настаўніцы беларускай мовы падтрымліваюць мяне і дапамагаюць. Мы не толькі супрацоўнічаем, але і сябруем.

**— Якія арганізацыі і ўстановы, паводле Вас, найбольш дапамагаюць?**

— У нас, у Чаромсе, найчасцей супрацоўнічаем з Асяродкам культуры. Праводзім там рамесныя заняткі, праекты, накіраваныя да асяроддзя: Дзень настаўніка, Дзень сеніёра, 8 Сакавіка, Калядныя спатканні.

**— Ці ведзяце ў школе беларускія праекты для сваіх вучняў? Калі так, назавіце іх.**

— Ужо з першага года маёй працы ў верасні заўсёды святкуем Міжнародны дзень замежных моў ды рыхтуем тады штосьці цікавае і неспадзяванае для ўсіх. У снежні ладзім Калядную вячэру, у ходзе якой дзеці супольна з бацькамі рыхтуюць стравы, потым разам сядаем за стол, спяваем калядкі, гаворым падрыхтаваныя раней вершы і пажаданні. Вядома, да нас прыходзіць Дзед Мароз і прыносіць усім падарункі. Гэта цудоўнае мерапрыемства, усе выглядаюць, чакаюць гэтага дня. А красавік вітаем „буславай лапай", якую супольна з дзецьмі пячэм на занятках.

**— Ваш любімы беларускі конкурс?**

— Мы некалькі разоў бралі ўдзел у конкурсе „Пазнай Беларусь" і „Роднае слова".

**— Ці можаце разлічваць на дапамогу бацькоў, асяроддзя?**

— Кантакт з бацькамі вельмі добры, можна сказаць — сямейны. Калі штосьці трэба, ніколі ніхто не сказаў: я не магу.

**— Ці навучанне на прынцыпе добраахвотнасці для вас складанасць ці, можа, козыр?**

— Калі заняткі па беларускай мове дадатковыя, тады, каб заахвоціць дзяцей, заўсёды трэба падрыхтоўваць цікавыя ўрокі. Мае вучні на сто працэнтаў не ведаюць, як будзе выглядаць дадзены ўрок.Часам «пераносімся» ў кіно перад праектар, з папкорнам і кока-колай, часам вучымся гатаваць стравы, або вітаем на занятках цікавых людзей, якія адкрываюць нас на штосьці новае.

**— Ці можаце зрабіць усё за тры гадзіны ў тыдзень, што раней запланавалі?**

— Тры гадзіны гэта вельмі мала. Бывае так, што нашы заняткі працягваюцца даўжэй. І калі яны з ахвотай астаюцца, каб пабыць з табой, радуецца сэрца.

**— Ёсць у Вас лаўрэаты прадметнага конкурсу? Калі так, назавіце іх лік.**

... —

**— Ці, паводле Вас, падручнікі па беларускай мове дапасаваныя да сучаснасці?**

— Цяжка сказаць, вучні вельмі розныя, змяняецца таксама падыход да нашай працы. Чакаецца ад нас індывідуальнага падыходу да вучня. Гэта заставляе нас падбіраць матэрыял з розных падручнікаў і іншых даступных крыніц.

**— Ваш любімы падручнік па беларускай мове?**

— „Літарынка", дапаможнік Ніны Саевіч „Матэрыялы да практычнага навучання беларускай мовы".

**— Хто Ваш любімы беларускі аўтар?**

— Майму сэрцу блізкая паэзія Галіны Тварановіч. Гэта мая прафесар з універсітэта, заўсёды буду яе цёпла ўспамінаць.

**— Якую беларускую кніжку Вы актуальна чытаеце?**

— На апошніх занятках у школе я пачала чытаць дзецям кніжку Алены Масла: „Як Пані Чаротная на госці ў Палангу бегала".

**— Ці прывіваеце цікавасць да беларускай прэсы?**

— Так. На старонках „Нівы",„Вясёлкі",„Бусі" заўсёды можна знайсці цікавыя артыкулы, якія выкарыстоўваю ў працы з вучнямі.

**— Якое, паводле Вас, самае цікавае беларускае мерапрыемства?**

— „Басовішча",„Бардаўская восень", народныя фэсты з цыкла «І там жывуць людзі».

**— Ці размаўляеце са сваімі вучнямі па-беларуску па-за ўрокамі, школай?**

— На жаль, не. Нашы вучні не размаўляюць нават на гаворцы. Але ўжо з блізкімі мы гаворым па-свойму.

**— Ці маеце прыкрыя ўспаміны ў сувязі са сваёй прафесіяй?**

— Пачаткі заўсёды цяжкія, але гэта не цяжкасць у кантактах з другім чалавекам, але з мноствам дакументаў, з якімі трэба напачатку справіцца.

**— Што Вас палохае, наклікае стому?**

— Дакументы, якіх штораз больш і больш. І напэўна факт, што менш дзяцей запісваецца на дадатковыя заняткі беларускай мовы.

**— Ці сярод Вашых вучняў ёсць вядомыя выпускнікі?**

— Яшчэ няма, але ўсё перада мной :)

**— Ці атрымалі Вы ўзнагароды за сваю працу (грашовыя, ганаровыя)?**

— У гэтым годзе я атрымала ўзнагароду дырэктара школы. Вялікай мабілізацыяй да далейшай працы і ўзнагародай за яе з'яўляюцца мае вучні, калі яны прыходзяць да мяне і пытаюць: „Ці напэўна будуць у нас далей у школе заняткі па беларускай мове?"

**— Што Вам дае сілу, натхненне?**

— Сілу і натхненне дораць мне мае вучні, калі я бачу іх жаданне і энтузіязм, каб прыходзіць на мае заняткі. Больш нічога не трэба.

**— Самы цудоўны ўспамін настаўніка беларускай мовы?**

— Успамінаў такіх шмат. Кожны праект, кожны вучань, урок — гэта асобныя, непаўторныя хвіліны.

**— Які нацыянальны сімвал упрыгожвае Ваш клас?**

— Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг.

**— Як бачыце будучыню беларусаў?**

— Зацікаўленасць нашай культурай вялікая. Думаю што ўсё залежыць ад нас, ці мы схочам берагчы нашу спадчыну.

Апытальнік правяла
**Ганна КАНДРАЦЮК**

# Пробны перапіс завершаны

У 2021 годзе ў Польшчы мае адбыцца Усеагульны перапіс насельніцтва і кватэр. Папярэджаны ён быў пробным перапісам, які ў красавіку гэтага года быў праведзены, між іншым, у Дубіцкай гміне — адзінай гміне Падляшскага ваяводства. Прыняло ў ім удзел больш за 70% жыхароў гміны Дубічы-Царкоўныя, што аказалася адной з самых лепшых працэнтных явак з ліку ўсіх гмін, у якіх праводзіўся пробны перапіс. Войт Дубіцкай гміны Лявон Малашэўскі і іншыя мае суразмоўцы перад перапісам і ў час перапісу заяўлялі, што запішуцца беларусамі. Жыхарам Дубіцкай гміны трэба было яшчэ адказаць на пытанне, на якой мове размаўляюць дома. Пытанні тычыліся таксама месца жыхарства і жыллёвых умоў, адукацыі і выконванай прафесіі, працаздольнасці. Неабавязковымі да адказу былі пытанні пра веравызнанне і нефармальныя саюзы з іншымі асобамі.



■ Грабавец, красавік 2020 года

У палове красавіка Гмінная ўправа ў Дубічах-Царкоўных была яшчэ зачынена, але ў Грабаўцы спаткаў я на панадворку мужчыну, з якім паразмаўляў я праз плот.

— У мяне няма інтэрнэту, таму я не прыняў удзелу ў перапісе ў электроннай форме. Ёсць мабільнік, то можа пазвоняць і папросяць адказаць на патрэбныя пытанні. Мой сябра з Грабаўца сказаў, што спісвала яго жанчына з Беластока, магчыма, што са статыстычнай установы. Спачатку сябра сказаў ёй, што няма ў яго якраз часу адказваць на пытанні. Аднак калі жанчына прыгразіла, што за адмову прыняць удзел у перапісе насельніцтва пагражае яму штраф, згадзіўся адкласці сваю працу і пагаварыць. Запрашалі нас паехаць у будынак Гміннай управы, каб спісацца праз інтэрнэт. Частка нашых жыхароў туды ездзіла. Я чакаю, што мне патэлефануюць і спішуць. Цяпер час змагання з каранавірусам і гэта абмежавала кантакты паміж людзьмі. Мы жывем кожны на сваім панадворку і ў такім выпадку ісці і прасіць малодшую асобу, каб у яго доме спісацца праз інтэрнэт было б крайняй безадказнасцю. Мы зараз думаем, што будзе далей, — сказаў спадар Анатоль з Грабаўца.

На маё пытанне, якую нацыянальнасць могуць называць жыхары яго вёскі, Анатоль меў канкрэтны адказ:

— Мы, жыхары Грабаўца — праваслаўныя людзі і лічым сябе беларусамі. Думаю, што так будуць адказваць нашы жыхары на пытанне пра нацыянальнасць. Не павінны ж мы баяцца назваць сваю беларускую нацыянальнасць, паколькі і так вядома, што мы праваслаўныя людзі. Маладых асоб у нас мала, але яны таксама павінны назваць сябе беларусамі, калі выхоўваюцца ў беларускіх сем'ях.

У апошні дзень перапісу, 30 красавіка, прадоўжыў я размовы аб пробным перапісе, тэлефануючы ў розныя мясцовасці Дубіцкай гміны. Пазваніў я ў Гурны Груд, які мясцовыя называюць Гарноўшчынай, і ў Старыну — у месцы, з якіх немагчыма спалучыцца праз інтэрнэт са светам.

— Жыхары Гарноўшчыны і суседняга Круглага не мелі магчымасці спісацца праз інтэрнэт. Вышкі аператараў мабільнай сувязі распалажаны далёка ад нас. У нас Беларускае Радыё Рацыя і іншыя радыёстанцыі таксама складана слухаць. Мая дачка з іншага месца спісала праз інтэрнэт некаторых жыхароў Гарноўшчыны. Дзеці ў такі спосаб спісалі таксама жыхароў Круглага. Людзі запісваліся беларусамі, паколькі мы ўсе беларусы і інакш нельга было зрабіць, — сказаў солтыс Гарноўшчыны і заадно мясцовы радны Віктар Кэндысь, ініцыятар змены спаланізаванай назвы вёскі *Кронглэ* на *Круглэ* — назву, якой карыстаюцца мясцовыя жыхары. — Удалося нам вярнуць вёсцы гістарычную назву. Калі рашэнне аб змене назвы было прынята, я адразу стаў у гміне прасіць, каб памянялі назву вёскі на ўказальніках. Я рады, што зараз на ўказальніках перад вёскай красуецца гістарычная назва Круглэ.

— У нас няма інтэрнэту, але дачка спісала мяне ў іншым месцы. Суседа сын спісаў. Спісвалі мясцовых жыхароў іх дзеці, а з некаторымі кантактавалі перапісчыкі з Беластока. Я сама па закліку гмінных чыноўнікаў прасіла, каб жыхары Старыны кантактавалі са Статыстычнай установай у Беластоку, каб іх працаўнікі спісалі нашых жыхароў. Думаю, што ўсе ў нас былі спісаны. Я сама запісалася беларускай і так пэўна запісаліся іншыя жыхары Старыны, паколькі ўсе мы лічым сябе беларусамі. Напісала я таксама, што па-беларуску гавару дома, — заявіла солтыс Старыны Галіна Богунь.

— У Істоку хіба ўсе былі спісаны ў час пробнага перапісу. Адных праз інтэрнэт спісалі дзеці, іншых — унукі, а да астатніх тэлефанавалі перапісчыкі са Статыстычнай установы ў Беластоку. Я на просьбу гмінных чыноўнікаў у канцы месяца прасіла некаторых жыхароў кантактаваць са Статыстычнай установай у Беластоку. Пасля спісвалі іх перапісчыкі з Беластока. Мяне меў спісаць унук, калі прыехаў да нас. Аднак нечакана патэлефанавала рэгістратарка з Беластока. Мы выйшлі на панадворак і спісала яна мяне і мужа. Была зычлівая размова, але некаторыя пытанні былі не зусім зразумелымі, напрыклад пытанне пра „несфармалізаваныя звёнзкі", — расказвала солтыс Істока Галіна Кот. — У Істоку і іншых нашых вёсках найбольш жыве асоб старэйшага ўзросту. Думаю, што ў час перапісу запісваліся яны беларусамі і мяркую, што так будзе і ў будучыні.

Пра ход пробнага ўсеагульнага перапісу насельніцтва і кватэр у гміне Дубічы-Царкоўныя расказаў мне па тэлефоне войт гміны Лявон Малашэўскі.

— У першым этапе, у першай дэкадзе красавіка, можна было спісвацца толькі праз камп'ютар на сайце Галоўнай статыстычнай установы, запаўняючы перапісныя лісты. Гэтым спосабам можна было спісвацца да канца красавіка і так спісалася ў нашай гміне каля 400 асоб. Пасля 10 красавіка да жыхароў нашай гміны пачалі тэлефанаваць рэгістратары са Статыстычнай установы ў Беластоку, каб спісаць іх па тэлефоне. Першапачаткова мы хацелі арганізаваць у вясковых святліцах перапісныя ўчасткі, куды маглі б прыходзіць жыхары і з дапамогай гмінных чыноўнікаў запоўніць перапісныя лісты. Аднак ва ўмовах эпідэміі каранавіруса, калі выдатную большасць жыхароў гміны састаўляюць старэйшыя людзі, мы адмовіліся ад перапісных участкаў у святліцах. Я і нашы працаўнікі звярталіся да жыхароў з заклікам прыняць удзел у пробным перапісе. Можна было, раней дамовіўшыся па тэлефоне, прыйсці ў гмінную ўправу і з дапамогай чыноўніка запоўніць на сайце перапісны ліст. Дзеля гэтага было нават выдзелена адпаведнае месца ў гміне. Жыхары нашай гміны тэлефанавалі таксама нам, адказвалі на пытанні і давалі нашым працаўнікам паўнамоцтвы для запаўнення перапісных лістоў на сайце Галоўнай статыстычнай установы. Ведаю, што маладыя дапамагалі спісвацца старэйшым жыхарам, якія не карыстаюцца камп'ютарам і інтэрнэтам. У нашай гміне прапісаных 1506 жыхароў, але частка асоб жыве ў іншых месцах. Сёння [30 красавіка — рэд.] апошні дзень перапісу і ўжо вядома, што на 1464 асобы, якія павінны былі прыняць удзел у перапісе, спісалася больш за 70% ад гэтага ліку. Гэта на цяперашні час дае нам самую лепшую яўку з ліку ўсіх гмін, якія прымаюць удзел у пробным перапісе. Можна спісвацца сёння да поўначы і могуць нас яшчэ апярэдзіць іншыя гміны, — сказаў войт Лявон Малашэўскі.

— Пробны перапіс быў патрэбны, каб выправіць недахопы і выкарыстаць досвед у час Усеагульнага перапісу насельніцтва і кватэр, які мае адбыцца ў Польшчы ў 2021 годзе. Калі жыхары самі спісваліся і па рознай прычыне здараўся перапынак у ходзе перапісу, нельга было ўжо вярнуцца да спісвання. Устанавілі мы кантакт з перапісчыкамі са Статыстычнай установы ў Беластоку, але былі складанасці, каб даканчыць перапіс і не ведаю, як гэта закончылася. Перапісчыкам камп'ютарным спосабам былі прызначаны асобы для спісвання і яны тэлефанавалі ім і спісвалі. Можна было пачаць спісванне ў камп'ютары на сайце Галоўнай статыстычнай установы, з дапамогай коду доступу, які павінен быў быць дасланы да канца сакавіка, а да майго бацькі дайшоў толькі каля 20 красавіка. Аднак можна было таксама пачаць перапіс, упісваючы канкрэтныя свае даныя, якіх іншыя не ведаюць, без ведання гэтага коду. Раней прадбачвалася, што калі нехта не спішацца сам і не спішуць яго па тэлефоне перапісчыкі, мелі яны тады заходзіць да неспісаных жыхароў і на месцы ставіць ім перапісныя пытанні. Аднак па прычыне эпідэміі каранавіруса Статыстычная ўстанова ў Беластоку не рашылася на гэты варыянт. Думаю, што паколькі быў гэта пробны перапіс насельніцтва, не будзе штрафаў для грамадзян, якія не спісаліся самі і якім не патэлефанавалі рэгістратары, — распавёў войт Лявон Малашэўскі. — На пытанне пра нацыянальнасць, я, канешне, напісаў, што я — беларускай нацыянальнасці. Гэтае пытанне, так як і пытанне пра мову, на якой размаўляем дома, былі абавязковымі. Але былі неабавязковыя для адказу пытанні пра веравызнанне і нефармальныя саюзы з іншымі асобамі. Не ведаю, навошта было пытанне пра нефармальныя саюзы з іншымі асобамі, на якое мелі адказваць таксама жанатыя і замужнія асобы. Жыхары нашай гміны маглі па-рознаму зразумець, як адказваць на гэты запыт.

Тэкст і фота
**Аляксея МАРОЗА**



# Пра-дом прадам

У сваю краіну вечнай лоўлі каты выпраўляюцца крадком. Прадчуваючы блізкую смерць, кот сыходзіць з дому, зашываецца ў цёмны куток, у хмызняк, абы падалей ад чалавечых вачэй. Канешне, маюцца на ўвазе тыя коцікі, у каго застаўся хоць які лапік свайго панадворка, свой куст, свая схованка пад падрубай старой стадолы. А куды спратацца ўсім гэтым Мурлыкам, Рудзікам і Пушкам, што ўслед за чалавекам ускараскаліся на дзясятыя-дваццатыя паверхі бетонных хмарачосаў?

З людзьмі зусім не так. Добрая, лёгкая чалавечая смерць абумоўленая супакойлівым дыханнем родных сцен, палётам у вечнасць наўпрост са сваёй падушкі, пасля развітання з самымі блізкімі людзьмі — дзецьмі, унукамі...

Прадчуваючы гора-бяду людзі вяртаюцца дамоў. Бяда нашых часоў мае імя каранавірус і прыйшла не папярэджаная воклічамі вяшчальнікаў, ні нервовымі перамовамі дыпламатаў, ні аператыўна-тактычнымі перамяшчэннямі армій. Проста — прыйшла. Першымі кінуліся ва ўцёкі гастарбайтары. Безабаронныя, адзінокія ў мільённых натоўпах, з Нямеччыны, Бельгіі, Вялікабрытаніі і іншых краін сытага Захаду паімчалі на свае Малыя Радзімы, раскінутыя ў прыцемках беднага Усходу. І Польшча з Беласточчынай тут не адзіны адрас.

„Ды сядзелі б ужо ў сваіх замежных эдэмах, а то прывалакуць нам чорт ведае якую заразу”, — пачулася ў народзе.

Кожны чалавек мае права вярнуцца на Радзіму, хацелася адказаць на такія заклікі. Але я маўчаў. Калі вайна з каранавірусам набрала абаротаў і ў выніку самая асноўная прастора чалавечай свабоды пачала абводзіцца сценамі паасобных гарадскіх кватэр, а звычаёвае, замацаванае тысячагадовай традыцыяй вітанне за руку з сябрамі і суседзямі стала лічыцца прыкметай свядомай дыверсіі на гэтай вайне, я склаў неабходныя рэчы, закінуў у заплечнік кніжкі і камп’ютар, пасадзіў у машыну старую кошку Ліду, і рушыў на ўсход, у бацькоўскі дом. Саджу дрэўцы і кветкі, не разлічваючы на літасць веснавых дажджоў паліваю іх, слухаю птушак. Зрэдку праз птушыны шчэбет з вуліцы прасочваецца чалавечы голас: „Сядзелі б у сваіх гарадах. А то збягаюць да нас ад заразы. Як піць даць прывалакуць яе за сабой. Не пра цябе, канешне, ты ў сябе. Мы пра гэтых...”


Фота Ягена Валы

А машыны сапраўды ідуць ды ідуць, памахваючы на прывітанне экзатычнымі тут нумарамі. З усяе краіны.

Не да нас яны, да сябе едуць, хочацца сказаць. Але ці варта тое казаць? Маўчу. Не кажу нічога і тады, калі час ад часу чую па тэлефоне: „На вёсцы? Добра табе, а мы ў горадзе ў масачках на твары і толькі днямі вось дазволілі выйсці на шпацыр у парк”. Бывае, слухаю голас у тэлефоне, а ў думках узнікае вобраз той ці іншай хаткі, прыгадваюцца імёны і твары ранейшых уласнікаў і як не намагаюся, не ўмею назваць імён цяперашніх гаспадароў. Адкуль яны ўзяліся? З нашага па-дзіцячаму бестурботнага захаплення бліскучай цацкай горада? З нядбайнасці пра заўтрашні дзень? І што замінала нам быць і тут, і там? Па выхадных, заязджаючы ў грыбы, праз шыбы аўтамашын мы назіралі, як новыя гаспадары старым хаткам даюць новае жыццё, ачысціўшы ад хмызнякоў даўно някошаныя лугі і неўзараныя загоны, пераўтвараюць іх у панадворкі. Акуратныя, дагледжаныя, як усё, што робіцца дзеля сябе і наступных пакаленняў.

„Навошта ім гэта трэба? Тут жа канец свету, далей толькі беларуская мяжа”.

Мне не хочацца тлумачыць, што там, дзе наш бацькоўскі дом, не канец свету. Наадварот, там яго пачатак. І глобус тут ні пры чым.

Наша імкненне пазбыцца прыімшэлых астаткаў Малой Бацькаўшчыны вырасла да памераў мясцовай пандэміі на зломе сямідзясятых і васьмідзясятых гадоў дваццатага стагоддзя. У пачатку дзевяностых у вёсцы суседняй з маёй Войнаўкай дэсперат, апантаны страшнай думкай, што ніколі ўжо не пазбудзецца ад лішняй мінуўшчыны, „пусціў” бацькоўскі дом за адну тысячу польскіх злотых. Долараў на той час чатырыста з лішнім. Аддаў оптам, з простай, самаробнай мэбляй, са сцежкамі продкаў, што вядуць у здзічэлы сад, з мроямі далёкага дзяцінства. Прадаў пра-дом. Бо менавіта ў кожнага з нас апроч дому ёсць свой пра-дом і ён куды больш чым дах, сцены і комін. Пра-дом — прастора, дзе даўжыню, шырыню і вышыню папаўняе чацвёртае вымярэнне, час. Не, не той, на якім вечнасць едзе верхам з бясконцасці ў бясконцасць. Маю на ўвазе наш асабісты час, своеасаблівую тканіну. Імёны продкаў, пераплятаюцца там з шаўковымі ніткамі мовы і культуры, ствараючы такім чынам непаўторны, рэльефны малюнак, адметны для кожнай сям’і, вёскі, рэгіёна. Наш асабісты час мае пачатак і канец.

А яшчэ пра-дом — гравітацыя. Не, не тая, што прытрымлівае на арбітах планеты і галактыкі. Тая гравітацыя, што нам, звычайным людзям дазваляе гарманічна з самім сабою перамяшчацца з сённяшняга дня ў заўтрашні дзень, не губляючы ўчарашняга. І не знікнуць бясследна ў прорве чужога часу і чужой прасторы.

**Міхал АНДРАСЮК**

## Дзе пастаянныя чытачы „Нівы”

„Ніву” № 18 ад 3 мая гэтага года гарталі чытачы, між іншым, з Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Плянты Семяноўкі. Завёз я экземпляры гэтага нумара для дзесяці чытачоў.

Дзевятнаццаты нумар роднага часопіса ад 10 мая гэтага года чыталі некаторыя жыхары Новага Ляўкова (іх тут найбольш), Міклашэва, Нараўкі, Новін, Падляўкова, Старога Ляўкова і Плянты. Я ім завёз на ровары. 8 мая г.г. наведаў я Канстанціна Ярашука, жыхара малой вёсачкі Новіны. Стаяў сонечны цёплы дзень і спадар Кастусь даглядаў пчол у сваёй пасецы каля хаты. Паветра аж звінела ад гудзення пчол. Пчаляр і заадно паэт уцешыўся, што ў вольную хвіліну будзе чытаць новую „Ніву”. Калі развітваемся, ніўскі пастаянны чытач заўсёды мне напамінае: „Ты пра мяне не забывай”. Я не забываю гэтага ветлівага і добразычлівага чалавека. І так наша дружба трымаецца моцна шмат гадоў. І што як што, а мы многа гадоў пражылі і далей жывем з роднай „Нівай”. Яна нам неабходная. Мы верныя і шматгадовыя яе чытачы.

Я тут дадам, што часам прыводжу прозвішчы пастаянных чытачоў, бо ў іх можна пазычыць газету для прачытання. Усе зацікаўленыя могуць пачытаць яе ў чытальнях публічных бібліятэк, між іншым, у Нараўцы і Гайнаўцы.

7 мая г.г. я хацеў купіць „Ніву” ў краме ГС у цэнтры Нараўкі (пры помніку), але цяпер беларускага часопіса не прывозяць. Чаму? Бо няма пастаянных чытачоў і не ўсе экземпляры раскуплівалі. А вось на нараўчанскай пошце ўсе экземпляры „Нівы” купілі. Асталіся ўсяго сем экземпляраў і іх прывёз мне лістаноша. Мне іх замала. Можа паеду і ў Гайнаўцы яшчэ дастану.

Гутарыў я з вясковымі чытачамі і даведаўся, што яны перш-наперш шукаюць у „Ніве” вестак з Нараўчанскай гміны ды суседніх, а таксама што новага ў Гайнаўскім павеце. Яны пыталі мяне, чаму няма старонкі „Трыбуна чытачоў” і рубрыкі „Сэрцайка” ды чаму так мала карэспандэнтаў піша ў „Ніву”. Той, хто пісаў карэспандэнцыі, той і пастаянна купляў наш беларускі штотыднёвік.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## Інвестыцыі

Улады Гайнаўкі шмат увагі прысвячаюць, між іншым, гарадскім вуліцам, аднаўленню іх маставых і пабудове тратуараў, перабудове дажджавой каналізацыі, а таксама вулічнага электраасвятлення.

На працягу двух апошніх гадоў у горадзе перабудавалі маставыя вуліц Каханоўскага, Міцкевіча, Тувіма, Пшанічнай, Цеснай, Цэльнай, Ляшчынавай, Сланечнікавай і Бортнікаў. Пабудавалі новую пляцоўку для дзіцячых гульняў і скаладром пры вуліцы Ліпавай.

Сёлета зараз перабудоўваюць вуліцы Рэя на жыллёвым пасёлку Чваракі і Бярозавую на пасёлку Ліпавая. Найбольш раскапалі вуліцу Рэя ды на ўсёй яе даўжыні. Тут будуюць новую дажджавую каналізацыю з г.зв. студзенкамі (каналізацыйнымі калодзежамі) і чыгуннымі кратамі. Працы ідуць спорна. **(яц)**

## На хутары

На прызабытым хутары стаіць старая драўляная хата. Вокны ў ёй сляпілі з кожным днём, забітыя дошкамі накрыж, блізарукія, з дрыжачымі шыбінамі. Яны званілі журботна ўночы. Буян-вецер скручваўся ў жмут, дакочваўся стралой да хаты, узбягаў па панурай шэрай сцяне і кідаўся на яе віхрастую галаву. Яна абаранялася саламяным крыкам і такі ж крык узнімалі суседнія стрэхі.

Аднойчы спакой пачаў мярцвець ад страху. На здзічэлы хутар прыйшлі хуліганы і павыбівалі ўсе шыбы. І вецер завыў, заскуголіў у цёмным куце хаты. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Як вытрымаць да канца года і не звар’яцець?

У школу дзеці хадзіць не любяць, але... Са школьнай парты трэба было перасесці за дамашні працоўны стол. Так любімы камп’ютар стаў сродкам для вывучэння ўрокаў. Не трэба прачынацца ў сем, каб паспець на першыя заняткі, не трэба памятаць аб вопратцы на фізкультуру ці аб тым, каб з заплечніка выкінуць сшытак, у якім і так няма дамашняй работы. Усё-такі надалей неяк не хочацца вучыцца... За акном штораз цяплей, штораз больш цягне на панадворак, а калі мы ўжо там, то абавязкова трэба пазваніць сябру ці сяброўцы. Ведаю, што на пачатку дыстанцыйнага навучання сяброўскае жыццё бурліла! Даходзілі да мяне і такія весткі, што некаторыя школьнікі ходзяць з „вогнішча на вогнішча”, бо зараз усюды імпрэзы. Можа гэты дым дайшоў у ноздры прэм’ер-міністра, які забараніў на нейкі час выходзіць дзецям да 18 года жыцця без апекуноў. На шчасце ўсё памаленьку вяртаецца да нармальнасці. Пэўна ў палове траўня даведаемся, ці яшчэ пабачымся ў сваіх школах перад канцом навучальнага года. Сітуацыя прымушае да рознага тыпу роздуму і рэфлексіі. Адзін з маіх школьных сяброў сказаў: „Лепш ужо было хадзіць у школу — чалавек пасядзеў, занудзіўся на занятках, але прынамсі дома быў спакой. А зараз!?”

Вось менавіта, месенджар або вайбер, якія калісьці былі месцам для жартаў і салодкіх фотак, зараз сталі форумамі для абмяркоўвання заняткаў. У тэлебачанні сур’ёзны міністр адукацыі паўтарае ўвесь час: дыстанцыйнае навучанне гэта не канікулы! Настаўнікі мусяць рэалізаваць праграму, а вучні як заўсёды круцяць:-) I сапраўды, некаторым у дамашняй рабоце з матэматыкі дапаможа брат, які ўжо на другім курсе палітэхнікі, заняткі па геаграфіі ці біялогіі дапаможа зрабіць вікіпедыя, а расійскую ці англійскую мову — дзядзька Google Translator. Як не дзіўна, вучні, якія былі слабыя па матэматыцы, зараз атрымліваюць пяцёркі. Тэсты па гісторыі ці хіміі пішуць не горш чым на чацвёркі. Хаця сапраўды ведаю і такіх вучняў, якім індывідуальная праца адпавядае больш чым з групай аднагодкаў. Настаўнікам цяжка разабрацца, але вучням варта ганарыцца добрымі ацэнкамі! I здаецца, што ў час гэтай сумнай пандэміі, гэта адна з рэчаў, з якіх сапраўды трэба цешыцца. Віншую крэатыўнасці і жадаю пасведчанняў з чырвонай палоскай!



*Мадзя з Гарадка, у рамках заняткаў анлайн па беларускай мове, падрыхтавала мастацкі твор на конкурс «Пазнай Беларусь»*

Міра ЛУКША

## Смартфон ці здароўе

Любіць клешч праменяванне
твайго смартфона,
Дзевяцьсот мегагерцаў з рання
сцягне яго з фону.
Не толькі ў лесе,
але і пад хатай
кляшчоў відаў з дзесяць
бытуе багата.
У карчах ды ў боры
клешч цікуе лоўка:
хто там з тэлефонам –
той яму сталоўка.
Пухнаты любімец
сабачка ці котка
кляшча хутка прыме
ў сцягно, карак, глотку
Клешчык асабліва
барэліёзам хворы,
лезе на нажыву,
смокча без адбору,
рыкецыяй заражаны
— найбольшы абжора!
Кляшча вабяць байты,
мегагерцы ў мроі...
Так што выбірай ты:
смартфон ці здароўе!

## УВАГА КОНКУРС!
## № 20-20

На сцяблінцы, на калматай
шэсць плялёсткаў ліловатых.
Кветка гэтая ў сне
ўсміхаецца вясне.
С..-т....

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 24 мая 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Адказ на загадку № 16-2020: шкарлупінне яйка. Узнагароду, аўтаручку, выйграў Тамаш Кярсноўскі. Віншуем!

# Міфы
## старажытных беларусаў



**РАКА** ўяўлялася старажытным беларусам стрыжнем Сусвету, які пранізваў верхні, сярэдні і ніжні светы. Сёння на Беларусі налічваецца больш за 70 культавых рэк, якім пакланяліся нашы продкі. Яны верылі, што рэкі ўзніклі ў часы першастварэння Свету. Стварыў іх сам Бог, ён загадаў птушкам, каб разнеслі па свеце ваду, сабраную ў адным месцы — «сусветным акіяне». Па іншай версіі рэкі папракопвалі волаты-веліканы. Рака Багатырка ў Расонскім раёне Віцебскай вобласці як быццам утварылася з вады, што выцякала з цэбраў, якія несла багатырка.

Вобраз ракі часта сустракаўся ў казках. Яны расказвалі пра вогненную раку, якая аддзяляла свет мёртвых ад свету жывых, малочную раку з кісельнымі берагамі, рэкі з мёду ці віна, раку, якую капалі звяры разам з птушкамі. Шматлікія паданні пра маленькія і вялікія рэкі распавядалі, што ў іх затануў воз грошай ці зброі, залатая карэта ці лодка, або нехта згубіў у іх шапку — Напалеон, царыца Кацярына ці швед. Захавалася шмат легенд пра зачараваныя рэкі, якія высахлі ці ператварыліся ў балоты. Звычайна гэта тлумачылі праклёнам некага, хто жыў побач з ракой і згубіў у ёй свайго блізкага чалавека — дзіця ці каханага. Напрыклад, на рацэ Крапіўна ў вёсцы Падлессе Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці ў чараўніцы ўтапілася дзіця. Жанчына кінула патэльню ў раку, і тая высахла. Існуе шэраг паданняў пра камяні і каменныя агароджы ў рэчышчах. У Заходняй Дзвіне ляжалі так званыя Барысавы камяні з высечанымі на іх крыжамі і надпісамі-просьбамі да Ісуса Хрыста, каб ён дапамог «рабу своему Борису».

Рэкі — гэта аб'ект многіх магічных практык. З дапамогай вады з трох крыніц лекавалі хваробы і гадалі будучыню. Таксама рэкам давяралі тайны і пажаданні, а гэтае павер'е каларытна адлюстравалася ў народных песнях.

На Падляшшы быў распаўсюджаны абрад «арання ракі», такім чынам нашы продкі змагаліся з засухай. Жанчыны запрагаліся ў саху і хадзілі па беразе ракі ці разворвалі яе.

*(Адрэзак адрэдагаваны на аснове кніжкі Алесі Коршак «Беларуская міфалогія для дзяцей»)*

**(гак)**



**Ніна Галіноўская**

## САЛАЎІНЫ КАНЦЭРТ

У бярозавым гаі
Выступаюць салаўі.
Месяц — ночы гаспадар,
Зырка выглянуў з-за хмар:
— Я люблю канцэрт такі.
Малайчыны, спевакі!
Больш святла
вам зараз трэба.
Ачышчайце, хмары, неба!
Я і зоркі так засвецім —
Спевакоў усіх прывецім.
Салавейкі, салаўі,
Галасістыя ў маі.

## Польска-беларуская крыжаванка № 20-20

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Bierz | Okazja / Pole | | | | | | |
| Nos | | Posiew | | | Zestaw dań | Ada | |
| | | | Śniadanie | | Ikona | | |
| Leśniczy | | | | | | | Porządek |
| | | | | | | | |
| Kogucik | Brzoza / Łuk | | | | | | |
| | | | | Gala | | Tania | |
| Skarb / Iks | | Agata / Oda | | | | | |
| | | | | | | | |
| | Ikona / Dolina | | | | | | |
| | Oka | | | | Jak | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 16-2020:**

Ляк, кажан, на, марс, шар, сваяк, маг, мёд, малако, меч, гама, на, боль. Вадалей, рог, ікс, прага, жывёла, Адам, каб, шкло, яна, карабель.

Узнагароды, беларускія наклейкі на камп'ютарную клавіятуру, выйгралі **Мілена Антыпюк** і **Юля Грыгарук.** Віншуем!

# Пчолы,
## нашы карміцелькі (2)



**Калі б яны прапалі, людзям засталіся б для выжывання толькі чатыры гады, — сказаў амаль 70 гадоў таму Альберт Эйнштэйн.** Калі не будзе пчол, ніхто не апыліць раслін. Калі не будзе раслін, людзі і жывёлы стануць пакутаваць ад голаду. Гэтая простая залежнасць прымушае нас урэшце адкрыць вочы і ратаваць апыльваючых насякомых. Гаворка перш за ўсё аб дзіка жывучых пчолах-самотніцах, якія, хаця не збіраюць пылку на мёд, паціху і дарам апыльваюць каля 90% раслін.


Фота Адама Паўлоўскага

**Усынаві насякомае**

Пра меданосных пчол дбаюць іх гаспадары. Калі яны не маюць даху над галавой, яны галодныя ці хворыя, мусяць даваць сабе рады самі. Людзі павінны ім дапамагаць, тым больш што ў Еўропе расце больш за 4 тысячы відаў раслін, якіх існаванне залежыць ад апыльвання дзіка жывучымі насякомымі. Яны менш пераборлівыя ад меданосных пчол, абляталюць расліны, на якія іх шляхетныя сваячкі нават не глянуць. Меншыя, больш зграбныя ад іх, улезуць нават у цесныя келіхі кветак.

Тры гады таму Грынпіс першы рушыў з акцыяй **«Усынаві пчалу»**. Віртуальна адаптавалі тысячы пчол, за кожную плацілі два злотых. Пабудавалі для іх больш за сто гасцініц. Такія сховы важныя, таму што пчолы могуць там пасяліць новыя сем'і. Цяпер штораз менш месца, дзе яны могуць апынуцца ў натуральных умовах. Паркі і агароды прыбіраюцца, збуцвелае голле і быльнёг вывозяць, шышкі грабуць разам з лісцем. Гладкія газоны і туі гэта прыемны для чалавека краявід, але для пчаліных — пустыня, дзе яны бяздомныя і хутка ўміраюць. Акцыя Грынпіс, фэсты, прагулкі на веласіпедах у чорна-жоўтых строях адкрываюць людзям вочы на праблему. Ставяць хаткі-гасцініцы, напрыклад, на Макатоўскім Полі ў Варшаве. Ужо не захапляюць вялізныя палеткі рапсу, які інтэнсіўна квітнее тры тыдні, а пасля насякомыя галадаюць. Трэба выбягаць думкай на пару гадоў наперад, не абсяваць палеткаў монакультурнымі раслінамі і не пасыпваць ніў і лугоў хіміяй. А напэўна не ў такой колькасці. З-за гэтага дзікія апыляльнікі хварэюць, нараджаюцца з заганамі, горш кантактуюць паміж сабой (між іншым у навігацыі), слабей вучацца жыцця, напрыклад, распазнавання кветак, уласнага гнязда ці арыентацыі ў прасторы.

Можна пісаць многа пра прыродную мудрасць пчол. Пра танцы, якія з'яўляюцца іх мовай. Першы раз апісаў іх Карл фон Фрыш, аўстрыйскі заолаг, які атрымаў у 1973 годзе Нобелеўскую прэмію ў галіне медыцыны і фізіялогіі. Шэршань — іх найбольшы працiўнік. Высочвае і атакуе вулей, працінае яго напалову. Але пчолы маюць на яго спосаб — замыкаюць яго сціслым роем і так махаюць крыламі, што тэмпература ў вуллі вельмі моцна ўзрастае. Яны гэта вытрымліваюць, а шэршань душыцца. Дзікія пчолы маюць таксама падобныя спосабы. Мусяць абараняцца не толькі ад шэршняў, але і ад бяздумнага чалавека. Калі б прапалі, мы былі б у шоку, бо адна трэць з таго, што кладзем на талерцы, знікла б — калі б разлічвалі толькі на вецер, елі б толькі збожжа. Аматары мясных страў забыліся б аб стэку — большасць кармавых раслін апыльваюць пчолы. Недахоп апыльвання — недахоп зерня — ежы птушак і адсутнасць новых пасеваў. Ручное апыльванне патроіла б цэны ежы. Квітнеючы краявід замяніўся б у сухую прэрыю, пахіснулася б уся экасістэма. У Кітаі ўжо даўно прыходзіцца апыльваць людзям расліны ўручную, напрыклад грушы ў Сычуані. Сяляне маюць там спецыяльныя пэндзлі зробленыя з пёраў і бамбуку. Мусяць такім пэндзлем сягнуць да кожнай кветкі.

А можна зрабіць простыя рэчы. **Гасцініцу для насякомых.** Напрыклад драўляную хатку з экападдона, з трыснягом, саломай, посудам з зямлёй, гліняным блокам з прасвідраванымі дзіркамі. Тады ў пустых сцяблінах знайшлі б схоў пчолы-муляркі, у гліне — пчолы антафоры, а ў зямлі зрабілі б жыллё пчолы ляпяркі (калетыды — Colletidae). Іншыя пчаліныя — хрушчы, чмялі, восы, мухаўкі, якія таксама памагаюць у апыльванні, у такой гасцініцы знайшлі б сабе месца.

Такую хатку-гасцініцу можа збудаваць кожны, хто мае балкон ці кавалак агародчыка. А калі маем больш зямлі, варта пакінуць кавалак раллі або дзікі луг, які будзем касіць не больш за два разы ў год. Няхай квітнее і дае насенне. Добра пасеяць меданосныя кветкі, якія цвітуць у розныя месяцы. Нават зёлкі ў скрынках ці гаршках. Для дзікіх пчол кожны з нас можа быць пчаляром. Варта і заплаціць на рахунак арганізацыі некалькі злотых дзеля «ўсынаўлення» пчалы.

Штогод велізарная колькасць насякомых безвынікова шукае месца для выседжвання. Некаторыя адкладаюць яйкі ў невялікія дзіркі ў дрэве, папярэдне выдзеўбаныя іншымі кузуркамі, у пустыя сцёблы раслін, ямкі ў зямлі. У нашых дагледжаных садах становіцца ўсё цяжэй знайсці такія месцы. Кузуркам няма дзе хавацца, таму для іх варта будаваць тыя хаткі-гасцініцы. Паводле рапарту аўстралійскіх і кітайскіх навукоўцаў, найбольшыя праблемы, якія вядуць да знікнення насякомых, гэта сярод іншых высечка лясоў, стварэнне ўсё больш раллі, узнікненне і ўвоз інвазійных відаў альбо недахоп чыстых вадаёмаў. Больш за тое, сучаснае будаўніцтва і сучасныя мінімалісцкія зялёныя кампазіцыі не спрыяюць з'яўленню насякомых каля нашых дамоў альбо на балконах. Раней яны жылі ў шчылінах, расколінах старых будынкаў, паміж цаглінамі і бэлькамі. У садах яны знаходзілі сховішча ў мёртвых дрэвах, пустых сцёблах раслін і сярод пустазелля. Выкарыстоўваючы лёгкадаступныя матэрыялы і просты інструмент, мы зможам лёгка — і што важна, без намаганняў — узнавіць такую прастору, зручную для карысных насякомых.

Гасцініца для насякомых, пабудаваная ў Варшаве на Макатоўскім Полі вялікая і з'яўляецца часткай кампаніі «Усынаві пчалу» і дае яе жыхарам розныя прытулкі. Ёсць дэталі, напоўненыя саломай, пучкамі трыснягу, разбітымі гаршкамі, шышкамі, сухім лісцем, карой і кавалачкамі драўніны з прасвідраванымі ў іх тунэлямі. Але кузуркам таксама спатрэбяцца невялікія гатэлі, якія лёгка зрабіць, выкарыстоўваючы найпростыя матэрыялы. Іх можна зрабіць, напрыклад, са старога чыгуна альбо драўлянай скрынкі і напоўніць тым, што маем пад рукой. Важна, каб у гасцініцы для насякомых быў дашак ад дажджу. Таксама можна абараніць яе ад драпежнікаў пры дапамозе сеткі.

У гатэлях з насякомымі любіць жыць сярод іншых **пчала-мулярка рудая**. Гэтая адзінокая дзікая пчала сваю назву абавязана спосабу пабудовы гнязда, пры якім яна «муруе» племянныя клеткі з гліны ці пяску. Мулярка жыве па ўсёй Еўропе і з'яўляецца адным з важных дзікіх апыляльнікаў. Лёгка забяспечыць ёй месца для жыцця. Яна самая распаўсюджаная і вядомая сваёй стараннасцю, мае каля аднаго сантыметра велічыні. Яна з задавальненнем выкарыстае прыгатаваныя намі гліняныя сценкі, але не пагарджае ямкамі ў драўляных і саломкавых хатках. Яе лічынкі вылупляюцца восенню, але гняздо пакідае толькі ў сакавіку і ўвіваецца сярод кветак да чэрвеня. У прыродзе мулярка гняздуецца сярод іншых у загнілых дрэвах і пустых сцёблах раслін. Мы можам стварыць для яе дом з пучкоў чароту. Сцяблінкі павінны быць даволі тоўстымі: адтуліна павінна быць у дыяметры 8 мм. Чаротавыя трубачкі павінны быць даўжынёй каля 20 см. Дом можа быць любога памеру. Ён можа складацца з аднаго пучка трыснёгу, устаўленага ў разрэзаную пластыкавую бутэльку, альбо можа быць вялікай структуры, напрыклад са старой шафкі, паліцы якой цалкам запаўняем трыснёгам. Муляркі не супраць жыць у вялікай кампаніі. Важна, каб дом быў абаронены ад дажджу, стабільна замацаваны і каб выхады трубак былі накіраваны на поўдзень, можна і на ўсход ці захад. Замураваныя канцы трысцінных трубачак дакажуць, што наша гасцініца знайшла жыхароў.

Выкарыстоўваючы натуральныя паводзіны карысных жывёл, мы выключаем выкарыстанне хімічных прэпаратаў, шкодных для навакольнага асяроддзя і чалавека. Будаўніцтва гасцініц для насякомых таксама мае дыдактычную функцыю. Назіранне за кузуркамі азначае, што мы здольныя зразумець шмат падрабязнасцей іх жыцця і, перш за ўсё, пазбавіцца ад забабонаў. Некаторыя канструкцыі такіх дамоў дазваляюць назіраць фазы развіцця насякомых. Зняўшы пярэднюю панэль, вы можаце ўбачыць шкляныя каналы размнажэння, пазнаёміцца са светам гэтых незвычайных істот.

Кузуркі з задавальненнем будуць жыць у любой сухой сцябліне ці ў дзірцы ў драўніне. Такім чынам, вы можаце падрыхтаваць кавалачкі сухога дрэва з загадзя прасвідраванымі трубачкамі (дыяметрам 5-8 мм і глыбінёй 6-10 см), звязанымі дротам пучкамі трыснёгу або пустымі сцёбламі (з раўнамерна адрэзанымі канцамі), альбо проста дзіркай дзе-небудзь у кустах, у зямлі, накрытай дошчачкай з выразанай уваходнай адтулінай. Хатку для кузурак можна зрабіць з гліны, зрабіўшы ў ёй трубчастыя адтуліны. Такім дамы могуць мець розныя формы і быць напоўнены рознымі матэрыяламі.

Кузуркі, якія насяляюць хаткі, з'яўляюцца ў асноўным вельмі карыснымі відамі. Сярод іх самую вялікую групу складаюць дзікія пчолы. Яны адрозніваюцца ад вядомых меданосных пчол тым, што вядуць самотны лад жыцця і не вырабляюць мёду, яны таксама цалкам бясшкодныя для людзей. Апыленне кветак — іх спецыяльнасць. У адрозненне ад меданосных пчол, яны апыляюць шмат іншых раслін, часта рэдкіх відаў.

**Як зрабіць гасцініцу** для насякомых. Выконваючы ролю распрацоўшчыка-натураліста, мы можам цалкам разлічваць на сваю творчасць. Мы ўпэўненыя, што жыхары гасцінічкі будуць задаволены кожным стандартам. Таму давайце адкарэктуем форму, памеры і знешні выгляд гатэля пад нашы ўласныя навыкі, матэрыялы і творчую вынаходлівасць. Мы не павінны будаваць з нуля. Дом для насякомых можна пабудаваць у старой шпакоўні альбо ў скрыні з садавінай. Ключ — гэта начынне, якое створыць шмат куточкаў, шчылінак і сховішч. Чым больш колераў і разнастайных матэрыялаў, тым лепш. Яны будуць прыцягваць насякомых!

Матэрыялы для гасцініцы можна знайсці ў садзе і на гарышчы. Мы можам пачаць збіраць будаўнічы матэрыял падчас вясновай уборкі. Мы можам выкарыстоўваць практычна ўсё, што натуральна для будаўніцтва. Гэта пустыя сцёблы, салома, шышкі, паламаныя палачкі і галінкі, фрагменты кары. Мы таксама можам выкарыстоўваць будаўнічыя матэрыялы, напрыклад, перфараваную цэглу, пустакі, сетку. Усё гэта паслужыць нам для азадблення інтэр'еру гасцініцы насякомых. Знешняя, асноўная структура павінна быць захавана насычальнікам, які не валодае інсектыцыднымі ўласцівасцямі (напрыклад, Drewnochron — Extra Supating Impregnate). Такім чынам мы абараняем будынак ад уздзеяння дажджу, снегу ці сонца, але не наносім шкоды насякомым.

Цудоўную гасцініцу для насякомых можна зрабіць з гліны, змешанай з саламянай сечкай (у прапорцыі 3 да 1). Паверхню глінянай сценкі робім больш разнастайнай паглыбленнямі, порамі і трубчастымі адтулінамі. Гэты метад можна выкарыстоўваць пры будаўніцтве досыць вялікіх дамкоў, напрыклад, у выглядзе фахверкавых сцен. Тады, на высушанай глінянай сцяне і драўляных бэлечках у сонечныя дні поўна працавітых, маленькіх жыхарак. Памятайце, каб заўсёды размяшчаць гнёзды насякомых у ціхім і сонечным месцы каля дома, з паўднёвага ці паўднёва-ўсходняга боку. Лепшае месца знаходзіцца пад падстрэшшам даху — там, дзе вада не заліе хатку падчас дажджу.

Міра ЛУКША

# Кара

Прызнаюся, што сёлета праваліў я экзамен па грамадзянскай граматнасці і на заклік сядзець дома баязліва прыхаваўся ў тыя дамашнія акопы. Па ўсім шырокім свеце шнарыць пагроза пандэміі, розныя ўлады ўводзяць розныя абмежаванні ў побыт сваіх грамадзян. У нашай Польшчы адбываецца гэта даволі аператыўна, з патрабаваннем дысцыплінаванасці. Туды не наведвацца, сюды не наведвацца — сядзець дома трэба. Дазволена наведваць крамы. Да дзяржаўнага Вялікадня забароны агучваліся даволі гучна, а пазней быццам крышку цішэй. Ну, але ёсць народная мудрасць, што ў ціхім балоце чэрці водзяцца, таму ў такі момант суцішэння трэба абвастрыць насцярожанасць...

Пасля дзяржаўнага Вялікадня наступіў тутэйшы Вялікі тыдзень — перад тутэйшым Вялікаднем. А ў тым тыдні субота, у якую па традыцыі асвячаецца хлеб наш надзённы і крыху да хлеба. Паколькі абмежаванні ахоплівалі і месцы рэлігійнага культу, то надумалася мне не шчыраваць у царкву, саступаючы ў ёй месца больш за мяне патрабуючым. Можна ж саматужна ў сваіх чатырох сценах пакарыстацца свянцонаю вадою.

Пакуль што да чаго, падаўся я ў краму, а вяртаючыся пабачыў чалавека ідучага з царквы з адмыслова прыбраны кошычкам. Спытаў я ў яго, ці шмат людзей мітусіцца ў царкве, а ён мне адказаў, што тры асобы было разам з ім; гадзіна была адзінаццатая дня. Калі так нешматлюдна, то і я надумаўся патрымацца традыцыі і пасвянціць сваё згодна з прынятым рытуалам, значыць, у царкве.

Выбраўся я а першай дня. На царкоўных прыступках стаяла чарга, якая даволі аператыўна апынулася ў прытворы. Асвячэнне адбылося таксама аператыўна, крыху інакш чым я сабе ўяўляў на сёлетні час — нашмат смялей. Тады, вярнуўшыся, кінуўся я зараз у інтэрнэт пабачыць, што дзеецца ў шырокім свеце. У Маскоўскай царкве Усяночную правіла толькі духавенства, тое ж самае ў Бялградскай — набажэнствы без вернікаў. Заглянуў я тады ж на партал Варшаўскай царквы, якое стаўленне яе іерархаў да пагрозлівай эпідэміі. А стаўленне тое даволі спакойнае, абгрунтаванае на цудадзейнасці веры. Усё мае адбывацца згодна расписанню з некаторымі далікатнымі засцерагальнымі мерамі: „Усе набажэнствы трэба правіць згодна велікапоснаму расписанню. Трэба рэкамендаваць вернікам, каб прыступалі да Тайны Споведзі ў будзённыя дні, калі ў храмах збіраецца меншая колькасць вернікаў. Адносна Еўхарыстыі, Св. Сабор Епіскапаў адназначна сцвярджае, што св. Еўхарыстыя з'яўляецца крыніцай жыцця, здароўя душы і цела, перад якой ніякая хвароба не мае моцы. Боская Еўхарыстыя — гэта Боскі агонь, які спальвае кожнае зло. Прыгадваем словы Хрыста звернутыя да апосталаў: *Імем Маім будуць выганяць нячыстыя сілы... гадзюк будуць браць у рукі і калі б нават выпілі атруту — нішто ім не пашкодзіць; узложаць рукі на хворых і яны ачуняюць* (Мк. 16:18). Гэтыя словы Збавіцеля тлумачаць усе сумненні і пацвярджаюць вечную праўду, што вера ўчыняе цуды".

А вось фрагмент веліконднага паслання Маскоўскай царквы: „У цяперашнім годзе народы Зямлі праходзяць праз асаблівыя выпрабаванні. Гібельная пошасць распаўсюдзілася па ўсім свеце, дасягнуўшы межаў і нашых краін. Улады ўжываюць абмежавальныя меры для таго, каб прадухіліць выбухны рост эпідэміі. У некаторых краінах пастырскай адказнасці Маскоўскага патрыярхату спынена правядзенне грамадскіх богаслужэнняў, у тым ліку і Бажэственнай літургіі. Аднак нам, праваслаўным хрысціянам, не трэба сумаваць або адчайвацца ў гэтых складаных абставінах, а тым больш паддавацца паніцы. Мы заклікаў захоўваць унутраны мір і памятаць словы Спасіцеля, прамоўленыя напярэдадні Яго адкупіцельных пакут: *У свеце гора зазнаеце, але мужайцеся: Я пераможу свет* (Ін. 16:33)".




Гэта не ўсё; на партале Маскоўскага патрыярхату шмат месца займаюць выказванні мітрапаліта валакаламскага Іларыёна, які, здаецца, другі па рангу пасля самога патрыярха Кірыла. Для аднаго з царкоўных парталаў: „Цяпер рашэнне не прыйсці ў храм будзе не проста абумоўлена ўважлівай прычынай, але стане выкананнем таго, да чаго заклікаў Патрыярх. Таму спадзяемся, што большасць нашых вернікаў астанецца дома і будуць глядзець прамую трансляцыю богаслужэнняў, а прычасціцца яны змогуць або наведаўшы храм у індывідуальным парадку і дамовіўшыся са святаром, або, дзе гэта магчыма, прыйшоўшы ў храм у абмежаванай колькасці, або пасля таго, як строгія каранцінныя меры будуць скасаваны. (...) Гэтыя каранцінныя меры маюць на ўвазе дэзінфекцыю лыжкі для прычашчэння... (...) Калі я гавару пра магчымасць спаведзяць па тэлефоне, то мова пра выключны выпадак. (...) У мемуарах мітрапаліта Веніяміна (Федчанкова) расказваецца такі выпадак. У час Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года губернатар Цверы, які быў глыбока веруючым чалавекам, пабачыў, што яго дом акружаны натоўпам. Ён зразумеў, што натоўп яго зараз разарве. Перад смерцю ён хацеў паспавядацца. Святара побач не было, ён пазваніў вікарнаму епіскапу Арсенію, той прыняў ад яго споведзь па тэлефоне і па тэлефоне прачытаў дазвольную малітву. Літаральна зараз жа пасля гэтага натоўп уварваўся ў дом і губернатар быў забіты. Такія прэцэдэнты бываюць. Вядома, у нармальных умовах споведзь мае на ўвазе асабісты кантакт, у тым ліку і фізічны, калі святар накладае епітрахіль на галаву каючагася і крае яго галаву. Але, напрыклад, зараз фізічны кантакт немагчымы і ўжо ў многіх храмах адбываецца агульная споведзь, калі святар называе грахі, а людзі сваёй прысутнасцю пацвярджаюць віноўнасць у гэтых грахах, затым святар чытае агульную ўсім дазвольную малітву. Такая практыка, нават у адсутнасць каранцінных мер, прымянялася ў савецкі час. (...) Ведаеце, у нас бывае, што рэкамендуецца прастуду вытрымаць на нагах; і вельмі часта людзі прыходзяць на работу з прастудай, некаторыя прыходзяць на службу. Яны чхаюць, кашляюць, заражаюць іншых людзей; і я зараз гавару не пра каранавірус, а пра звычайныя прастудныя захворванні. Чамусьці ў нас лічыцца нават мужнасцю вытрымаць на нагах грып ці прастуду, а гэта нясе небяспеку не толькі самому чалавеку, але і акружаючым яго людзям. Таму зараз мы павінны адмовіцца ад такога рэкамендавання; і калі ў нас прастуда, то трэба сядзець дома, піць чай з малінавым варэннем і чакаць аж яна пройдзе, а не стварацъ умовы для перадачы гэтай прастуды іншым".

Ящчэ не так даўно ў той жа маскоўскай дзяржаве велічалася геройства, а цяпер — сядзі дома і пі чай з малінавым варэннем. Рыхтык быццам загадвалі гэтая варшаўскія дзяржаўныя ўлады; гэтая маскоўская рэкамендацыя крышку мяне ўсё ж такі падбадзёрыла. Але зараз маё самазадавальненне рассыпалася ў прах. Кіеўскі патрыярх Філарэт меў заявіць, што ён не захварэе, бо ён павінен служыць Царкве. Значыць, захварэе той, хто сядзіць дома... Добра, што я хаця са свянцонкай схадзіў у царкву — нейкая прышчэпка ёсць...

Засцерагальныя каталіцкія крыжы на тутэйшай тэрыторыі ў ліку магчымых няшчасцяў на першым месцы ставяць *powietrze*. Мор не чужы ў Польшчы, так як не чужы на захадзе Еўропы ці ў Маскве. Толькі вось тая вера, той стрыжань рэлігійнасці, уводзіць рассеянасць — ці ўратуе яна ад хваробы. Тут і царкоўным аўтарытэтам нялёгка разабрацца: адны рэкамендуюць адвагу, іншыя ж — асцярожнасць. Як гэта ў нас гаворыцца: Божа, памажы; але і сам не ляжы. Рымскі папа Францішак і канстанцінопальскі патрыярх Варфаламей рэкамендуюць і асцярожнасць, і веру ў нябесную ахову.

Шнырачы па інтэрнэце трапілася мне наткнуцца на святую Фаўстыну Кавальскую. Ёй у адной з відзежаў у 1938 годзе быў паказаўся сам Езус ад Якога пачула наступнае: „Польшчу Я асабліва палюбіў і калі будзе паслушная Маёй волі, узвышу яе ў магутнасці і святасці. З яе выйдзе іскра, якая нарыхтуе свет для Майго канчатковага прышэсця". Асобы, якія разглядаюць гэтую відзеж, тлумачаць яе адназначна: Польшчу абыдуць бокам усе стыхіі і хваробы аж да збаўлення свету. А мне крышку ў гэта мала верыцца, бо каб такое збылося, трэба менавіта быць паслушнымі згаданай Волі — значыць намагацца быць бязгрэшнымі. Але калі так шчыра азірнуцца навокал, то мне здаецца, што амаль усе нашы браты і сёстры вельмі падобныя Адаму і Еве — іх вельмі лёгенька спакусіць любым яблычкам. І калі хочацца пазбегнуць пошасці, то трэба ўсё ж такі самім старацца...

Тая відзеж святой Фаўстыны пакуль што не збываецца, Польшчы не абміналі і не абмінаюць ніякія пошасці. Нават тая легендарная Чорная смерць на схіле Сярэднявечча. Яе першая хваля каля 1350 года асабліва не запісалася ў польскіх хроніках, але ўспамін яе астаўся ў прыродных запісах. Пра другую хвалю эпідэміі каля 1360 года згадвае Ян Длугаш. Пра трэцюю хвалю 1370-х гадоў сведчаць запісы сконаў кракаўскіх касцельных іерархаў, якіх у 1371-1373 гадах было ўдвая больш чым у сумежных. Да гэтага іншыя даследаванні паказваюць, што на тэрыторыі Польшчы аблясенне ў 1400 годзе было на 10% большае чым у 1350 годзе — значыць, шмат зямелькі-карміліцы за той час зарасло лесам, не стала землярobaў, не было каму яе абрабляць. Выраслі лясы, відаць, пошасць абрынулася і на караедаў...

Нядаўна наша хваляванне ўзбуджала пошасць КАРА-еда, зараз КАРА-навіруса. Цалкам магчыма, што маем дачыненне з нейкай карай. Згаданы патрыярх Філарэт меў заявіць, што апошняя пошасць гэта менавіта кара за аднаполыя сужонствы.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

1 ☞ працяг

Гісторыя прадвызначае месца. Дзякуючы таму сённяшні храм у Самагрудзе вельмі нагадвае палескія царкоўкі, як у Кажан-Гарадку, дзе відаць уплыў людзей на яе фармаванне і выгляд. Мясцовыя жанчыны адмыслова вышываюць спрадвечным метадам ручнікі, якія ўпрыгожваюць іконы. Гэта таксама месца на святыя абразы і іконы, якія не могуць знайсці месца пад вясковымі стрэхамі.

— На хоры вісіць абраз, які аддалі ў царкву. Ён можа не праваслаўны, але вельмі прыгожы, — тлумачыць айцец Адрыян, паказваючы абраз Хрыста ў цярновым вянку. — Элементы традыцыі і культуры ў царкве мусяць існаваць. На гэтым напісанае: Люба Крэйза. Спадарыня Крэйза памерла ў гэтым годзе. Хаця яна жыла ў Крынках, а пазней у дачкі ў Варшаве, для сваёй царквы раз на год ткала такія ручнікі.

**Месца на перакрыжаванні**

Прыход у Самагрудзе ахоплівае вёскі Сухінічы, Хмялёўшчына, Кнышэвічы, Слоя, Слойка, Бабікі, Малыя Мішкеннікі і Вялікая Зубрыца. Айцец Адрыян Харытанюк з'яўляецца яго настаяцелям з 2009 года. Сёлета ад Сабора Епіскапаў 17 сакавіка 2020 года атрымаў ён званне протаіерэя.





Іконы, якія трапілі ў рэестр помнікаў даўніны, былі патурбаваны савецкімі салдатамі. Калі царкве вернуць 63 гектары царкоўный зямлі, якую па сённяшні дзень называюць „Папоўшчынай", удасца рэканструяваць іконы *Дванаццаці святаў* (прадстаўляе дванаццаць найважнейшых святаў у праваслаўным літургічным календары года), *Св. Прарока Ільі і Марыі Егіпцянкі* ды *Збавіцеля свету*. Астатняя ікона вядомая многім з карціны Леанарда да Вінчы, які зараз лічыцца самымі дарагім мастацкім творам у свеце. Шар у руках Хрыста, паводле ўявы вялікага мастака, верагодна сімвалізуе пустэчу гэтага свету[2].

— Кожны індывідуальна да гэтага падыходзіць, але я думаю, што калі яны намоленыя царквой, то не важна ці яны ўніяцкія, ці яны праваслаўныя, — тлумачыць айцец Андрэй. — Унія і праваслаўе — гэта было для людзей, якія тут жылі і жывуць дагэтуль, невялікая розніца, яны не звярталі на гэта ўвагі. Яны проста хадзілі памаліцца ў царкву, на якой не было напісана ці яна праваслаўная, ці ўніяцкая.

Плябанію, якая стаіць насупраць царквы, акружаюць векавыя дрэвы. Як аказваецца, не стаяў тут маёнтак, але свайго часу перакрыжоўваліся важныя шляхі.

Зараз за плябаніяй знаходзілася карчма, якой рэшткі знайшоў краязнаўца, бургамістр Супрасля Радаслаў Дабравольскі, які сам па адукацыі — гісторык. Відавочна, на славутасць месца паўплывала не толькі легенда, грошы бізнесмена і храм, але і карчма.

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

[2] P. Cieśliński, *Naukowcy rozwikłali tajemnicę szklanej kuli z obrazu Leonarda da Vinci, najdroższego dzieła sztuki na świecie*, „Gazeta Wyborcza", 11.01.2020, https://wyborcza.pl/7,75400,25585723,tajemnica-szklanej-kuli-z-obrazu-leonardo-da-vinci-najdrozszego.html?cta=1pbox-2hd-3an-5oknonaswiat)

**Беларуская Праваабарончая Школа**

Адукацыйна-асветніцкая ініцыятыва беларускай праваабарончай супольнасці

**http://belschool.tilda.ws**

На пачатку мая Беларусь захлынула чарговая хваля палітычных рэпрэсій. Прычынай яе сталі сустрэчы з людзьмі аднаго з палітыка-арыентаваных блогераў — Сяргея Ціханоўскага, які нядаўна заявіў аб сваім жаданні стаць прэзідэнтам.

Нягледзячы на тое, што выбараў у Беларусі ў поўным разуменні гэтага слова няма, і яны наўрад ці магчымы пакуль пры ўладзе знаходзіцца цяперашні бязменны правіцель, людзі хочуць бачыць іншы твар на галоўнай пасадзе. Менавіта таму яны цягнуцца да таго, хто, па іх меркаванні, можа стаць такой рэальнай альтэрнатывай. Улады ж дзейнічаюць нахабна — тыя, хто прыходзіць на сустрэчы з блогерам, які з паплечнікамі ездзіць па ўсёй Беларусі, потым арыштоўваюцца. І пасля гэтага прыбаўляецца працы ў праваабаронцаў, якія задарма для пацярпелых дапамагаюць ім у юрыдычных пытаннях.

На сённяшні дзень праваабарончы рух у Беларусі, бадай, адно з нешматлікіх грамадскіх дасягненняў, якія маюць хоць невялікі, але ўсё ж такі ўплыў на сітуацыю ў краіне. Менавіта да праваабаронцаў прыслухоўваюцца разнастайныя міжнародныя інстытуты, калі аналізуюць стан рэчаў у той ці іншай дзяржаве. І таму, каб такі рух пашыраўся, больш людзей павінны ведаць свае правы і ўмець іх абараняць.

Не так даўно ў інтэрнэце з'явіўся сайт „Беларускай праваабарончай школы" (БПШ), які месціцца па адрасе http://belschool.tilda.ws. Гэта школа вызначаецца як адукацыйна-асветніцкая ініцыятыва беларускай праваабарончай супольнасці. „Мы хочам, каб як мага больш беларусаў і беларусак даведаліся пра каштоўнасці Правоў чалавека. У межах БПШ адбываецца шмат самых розных доўга- і кароткатэрміновых праграм, івэнтаў і ініцыятываў. Усе іх яднае адно — павага чалавечай годнасці і падыход, заснаваны на правах чалавека", — гаворыцца на галоўнай старонцы сайта.

Там жа змешчана пытанне „навошта навучацца правам чалавека?". Прамога адказу на яго, на жаль, знайсці на сайце не ўдалося. Аднак, яго можна знайсці ў тых кароткіх расповедах, у якіх гаворка пра прынцыпы і нюансы навучання.

Ніжэй на галоўнай старонцы можна ўбачыць невялікія анонсы курсаў, якія выкладаюцца ў БПШ. Першы — „Тэрыторыя правоў. Уводны курс у правы чалавека". Гэта інтэрактыўнае навучанне, падчас якога слухачы знаёмяцца з гісторыяй і сучаснымі выклікамі правоў чалавека. Уверсе цэлага выяўлення можна знайсці выйсце да яго старонкі. Другі — „Летнія школы ў Вільні. Базавы курс па правах чалавека". Гэтаму курсу таксама адведзена асобная старонка сайта. Цягам дзесяці дзён у літоўскай сталіцы навучэнцы знаёмяцца з канцэпцыяй правоў чалавека, роўнасцю і недыскрымінацыяй, нацыянальнымі і міжнароднымі механізмамі абароны правоў чалавека, дэталёва разбіраюць пытанні свабоды слова, свабоды ад катаванняў, мовы варожасці, дзеянняў у абарону правоў чалавека і грамадскіх інтарэсаў. Прычым кожная летняя школа мяняе сваю праграму згодна з запытамі ўдзельнікаў.

Трэці курс — „Паглыблены тэматычны курс па правах чалавека". На яго старонцы на сайце адзначаецца, што ён будзе цікавы тым, хто мае базавыя веды ў сферы правоў чалавека, гатовы да актыўнага навучання і хоча паглыбіцца як у тэорыю, так і ў практыку гэтай навукі.

На галоўнай старонцы сайта змешчана і інфармацыя пра каманду „Беларускай праваабарончай школы". Яна складаецца з трох праваабаронцаў — Андрэя Палуды, Дар'і Рублеўскай і Таццяны Самнікавай.

**Аляксандр ЯКІМЮК**



Дата з Календара

# 115 гадоў з дня нараджэння Стэфаніі СТАНЮТЫ

Беларуская актрыса Стэфанія Станюта нарадзілася 13 траўня 1905 г. у Мінску ў сям'і вядомага мастака Міхаіла Станюты. Адзін з самых лепшых партрэтаў мастака Міхаіла Станюты — гэта партрэт яго дачкі, які захоўваецца ў Мастацкім музеі. Стэфанія вучылася ў царкоўна-прыходскай школе, пасля ў Мінскай жаночай урадавай гімназіі. Цікава, што ў дзяцінстве яна трапіла на афіцыйную сустрэчу расейскага цара Мікалая ІІ з „беларускім народам".

Будучай актрысе было 14 гадоў, калі яна прыйшла ў Таварыства беларускай драмы і камедыі, якім кіраваў Фларыян Ждановіч. А потым, дадаўшы сабе некалькі гадоў, разам з сяброўкай яна з'ехала вучыцца тэатральнаму майстэрству ў Маскву. У гады вучобы ў Маскве Стэфанія закахалася і выйшла замуж за акцёра з гэтай жа студыі Васіля Рагавенку. Дырэкцыя выдзеліла маладым па 10 рублёў. Але муж нешта сказаў тое, што казаць было нельга. І апынуўся на 13 гадоў у сталінскім канцлагеры.

У 1926 г. Станюта скончыла беларускую драматычную студыю пры МХАТ, на базе якой у Віцебску быў створаны тэатр (цяперашні тэатр імя Якуба Коласа), дзе актрыса працавала да 1932 г. Далей і ажно да канца жыцця Станюта працавала ў Беларускім драматычным тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску. У 1934 г. выйшла замуж за Аляксандра Кручынскага, які навучаў артыстаў яздзе на конях. У 1936 г. нарадзіўся сын Аляксандр, які стаў вучоным, доктарам навук, літаратуразнаўцам. Шлюб з Кручынскім таксама быў не вельмі доўгім. Калі пачалася вайна, тэатр Янкі Купалы быў на гастролях у Адэсе. З Адэсы артыстаў эвакуявалі ў сібірскі горад Томск. А сын Саша застаўся з бацькам у Мінску. Яны не паспелі з'ехаць. Муж працаваў на біржы працы, дапамагаў партызанам. Але пасля вайны саветы яго засудзілі і адправілі ў лагер у Варкуту. Там ён загінуў.

У тэатральным спісе Стэфаніі Станюты больш 200 роляў. Яе называлі жывой легендай, талісманам Купалаўскага тэатра. Упершыню ў кіно Станюта з'явілася яшчэ ў 1958 годзе. Яна сыграла каля 60 роляў у кіно і тэлесерыялах. Сярод іх кінастужка „Людзі на балоце" рэжысёра Віктара Турава, любімы многімі фільм „Белыя Росы" Ігара Дабралюбава, фільмы „Я, Францыск Скарына...", „Час выбраў нас", „Развітанне" ды іншыя. Здымалася ў такіх рэжысёраў як Элем Клімаў, Ларыса Шапіцька, Леанід Нячаеў. Стварыла ў кіно незабыўныя вобразы беларускіх жанчын — спагадлівых, чуллівых, ласкавых. Здзіўляла навакольных нават у сталым веку сваімі спартовымі магчымасцямі і аптымізмам.

Стэфанія Станюта была неверагодна сціплым і сарамлівым чалавекам. Сучаснікі ўспамінаюць, што ў актрысы былі дзіўныя вочы. У залежнасці ад таго, каго яна грала, яны рабіліся то калючымі, злымі, то поўнымі няструмнага гневу, то сусветнага прабачэння. А ў жыцці ў гэтых вачах заўсёды чыталася дабрыня. Актрыса мела і прынцыповую патрыятычную грамадзянскую пазіцыю — прыкладам у канцы 1986 года была сярод 28 прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігенцыі, якія падпісалі зварот на імя генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова. У ім выказваўся пратэст супраць дыскрымінацыі беларускай мовы і прапаноўваліся захады дзеля паляпшэння яе стану.

Памерла Станюта 6 лістапада 2000 г. ва ўзросце 95 гадоў, пахавана ў Мінску на Усходніх могілках. У яе гонар у Мінску на доме па праспекце Незалежнасці ў 2003 г. усталявана мемарыяльная шыльда. А „Белпошта" да сотых угодкаў Станюты выпусціла адмысловую марку.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

*З мінулага Гайнаўкі*

## Старая Лесна

Жыллёвы пасёлак Старая Лесна ў Гайнаўцы перад Другой сусветнай вайной ды шмат гадоў пасля яе меў назву Лясная Калёнія (цяпер гэта Старая Лесна). Былі тут дзве леснічоўкі і ўсяго некалькі драўляных меншых і большых хат. Побач бегла дарога ў Кляшчэлі і быў мост на рачулцы Лесна. Да хат падступалі падмоклыя Гурнянскія лугі і сенажаці, распаложаныя над Леснай. У вышэйзгаданай частцы горада было, як кажуць, шчырае поле, шмат вольных зямельных участкаў і тут пасяляліся прыезджыя жыхары з цэнтральнай Польшчы, але таксама з навакольных вёсак, між іншым, Арэшкава, Хітрай, Збуча, Новага Беразова.

У Гайнаўку пераехаў жыць, між іншым, Павел Леўчук з Хітрай. Ён пачаў працаваць на чыгунцы (на яе адрэзку ад Чаромхі да Валкавыска) і хутка абзавёўся сям'ёй. Спачатку ён і жонка кватаравалі ў знаёмых у Выдмухове (гэта самая маленькая частка горада на ўскраіне Белавежскай пушчы). Пасля купілі дом і вялікі ўчастак зямлі ад лесніка па вуліцы Лесна, якая прымыкае да вуліцы Варшаўскай. Мелі дзве дачкі. З адной з іх, старэйшай — Нінай, я вучыўся ў гайнаўскім агульнаадукацыйным ліцэі. Гэта яна распавяла мне пра пасёлак Старая Лесна.

Сям'я Леўчукоў была дружная і працавітая. Кожны з членаў сям'і маці ведаў пра што яго клопат у хаце, на панадворку і ў вялікім агародзе. Быў устаноўлены падзел абавязкаў. І ўсюды ў цэлай сядзібе быў парадак. Пра ўсё найбольш клапацілася маці. У Леўчукоў былі малочныя каровы, авечкі, куры, гусі і індыкі. Кароў пасвілі каля хаты на лузе, увязвалі на ланцугах. Гаспадыня насіла на базар і прадавала смятану, масла і сыры ды апрача таго яйкі. Дзяўчаты мелі свае „рэвіры" для ўборкі ў хаце, дапамагалі маці палоць зелле ў агародзе. Бацька, між іншым, замятаў панадворак і дбаў пра агароджу ды брамкі-веснічкі. Спадарыня Ніна ахвотна ўспамінае сваё дзяцінства і сяброў-аднагодкаў. Помніць як хлапчукі ў купінах траў на паплавах шукалі сотаў з мёдам дзікіх пчол і вос. Дзеці як то дзеці, ладзілі свае гульні. Малая Нінка ў свае раннія гады жыцця ахвотна ездзіла з бацькам на прыхадскія святы да сваякоў у Старое Корніна і Мора.

Ніна хадзіла ў пачатковую школу на суседнім пасёлку Юдзянка. Драўляны атынкаваны будынак, у якім вяліся заняткі, існуе дагэтуль. Навучанне адбывалася ў спалучаных класах. Вучні былі дружныя і спагадлівыя. Адной вучаніцы з Выдмухова часамі прыходзілася вяртацца дадому поцемку ды кавалак дарогі вялікім і цёмным лесам. Сяброўкі праводзілі яе аж на ганак хаты.

З кожным годам на пасёлку прыбывала дамоў і вуліц. Іх назвы бралі ад назваў дрэў — Саснова, Ядлаўцова, Цісова, Сверкова, Ігляста, Моджэвёва, Цыпрысова і Верасова. І так узнікла Новая Лесна. Па вуліцы Варшаўскай пабудавалі вялікі малочны камбінат, вялікую швальню вопраткі і рукавіц для рабочых-будаўнікоў і васьмігадовую пачатковую школу. Нядаўна тут пабудавалі таксама мураваную з чырвонай цэглы царкву. **(яц)**

## Дзікія качкі на Бáброўцы

Цікавая і загадкавая рэчка Бáброўка на ўсёй сваёй даўжыні. А раней была яшчэ больш таямнічай. Была ў меру паўнаводная, чыстая, акаймаваная буйнымі кустамі вярбы і алешніку, яны быццам ахоўвалі яе, ды завілістая. У рэчцы цвілі жоўтыя гарлачыкі. Іх далоністыя лісткі плоска ляжалі на вадзе. Было ў рэчцы сама менш пяць відаў рыб і многа ракаў. Яе берагі былі падмоклыя (гэта ж нізінная рэчка) і былі балоцістыя месцы з вялікай травой або вадзяной расліннасцю.

25 красавіка гэтага года веяў халодны вецер, але паехаў я на рэчку Бáброўку. Запланаваў пабачыць, якая яна ў сваім верхнім цячэнні, між іншым, на калёніі Полымя каля Тарнопаля. На ўрочышчы Полымя жыў беларускі паэт Уладзімір Гайдук.

Па дарозе заехаў я на ляўкоўскія могілкі, дзе пакояцца мае бацькі і дзяды, і запаліў знічы на магілах. Запаліў зніч і на магіле майго калегі паэта Валодзі з Тарнопаля. І не ведаў, што далей рабіць, бо аказалася, што ўзяў з сабою фотаапарат, але забыў пра гумовыя боты.

Затрымаўся я на мосце цераз рэчку, які каля ветрака. Тут непадалёк ад моста ёсць малая плаціна і часткова запруджана вада. Вады ў рэчцы на гэтым яе адрэзку роўна з берагамі. Да Бáброўкі прымыкаюць два доўгія равы паабапал з кустамі ды старарэчышча, у якім паміма цяперашняй сушы стаіць вада і прылягаючыя лугі тут падмоклыя, а ў ямках стаіць вада. Прысеў я на невялікай плаціне. З-пад кустоўя над адным з равоў выплылі найперш дзве дзікія качкі, а затым паявілася іх больш. Качанят не было. Будуць яны ў цяплейшую пару года. Над вадой лёталі, кружыліся кнігаўкі і чайкі.

Тэкст і фота
Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА

## З юбілеем

18 мая 2020 года выдатнаму беларускаму паэту, навукоўцу, рэдактару і перакладчыку — **Яну Чыквіну** родам з Дубіч-Царкоўных спаўняецца 80 гадоў. Шмат гадоў прафесар Ян Чыквін з'яўляецца старшынёю Літаратурнага аб'яднання «Белавежа» і рэдактарам альманаха «Тэрмапілы».

З гэтай нагоды Шаноўнаму Юбіляру творчых памкненняў, аўтарскіх зборнікаў і здаровага жыцця жадае Праграмная рада тыднёвіка «Ніва», Беларускі саюз у Польшчы і паклоннікі ягонага, прыгожага пісьменства.

## Адгаданка

**1.** невялікі рэстаран з эстрадай, у якім... бар, **2.** цвіце ў купальскую ноч, **3.** хапанне здабычы, **4.** жальба суправаджаная слязамі, **5.** божая кароўка або гнаявік, **6.** адзінка электрычнага супраціўлення, **7.** збудаванне для выпечкі хлеба, **8.** адлегласць паміж растапыранымі малым і вялікім пальцамі, **9.** таможнік, **10.** нематэрыяльны элемент чалавечай істоты, ажыўляючы цела, **11.** кінатэатр, **12.** Васіль, аўтар „Альпійскай балады", **13.** кіраўнік піянерскага атрада, **14.** дзяржава з Капенгагенам, **15.** вадкасць у венах.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — афарызм.

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | 2 | | | | 3 | | | 4 |
| 5 | | | | | | | | 6 | | | | | |
| | | 7 | | | | 8 | | | | | | | |
| | | 9 | | 10 | | | | | | 11 | | | |
| | | | 12 | | | 13 | | | 14 | | | 15 | |

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 16 нумара**

Малако, Гобі, прыпол, трава, зіма, падвал, нерв, банк, том, Ван, сецць, Лынькоў, труба, цела, мост, міля, дзеці, стыхія, кравец.

Рашэнне: **Закон падобны павуціне, абмотвае слабых і рвецца моцнымі**.

## 17.05 — 23.05

**(22.03. — 20.04.)** Стабільна. 21-23.05. нанова адкрыеш пяшчоту і жарснасць. Ідэальны час на размовы. Прапановы працы бяры без аглядкі. Шэф ацэніць твае кваліфікацыі. Не ўключайся ў сумніўныя мерапрыемствы. 20.05. можаш пачаць рабіць такое, у чым нават не вельмі разбіраешся. 21-23.05 на тваіх задумах і ідэях можа выйграць хто іншы. Добры час пахудзець ды парваць з кепскімі звычкамі.

**(21.04. — 21.05.)** Энергія і добрыя задумы. Рэалізацыя мараў. Будзеш ласы на касу. 17-19.05. уява прыбытку і павышэння вартая высілку! З 20.05. пачнуць працэнтаваць задумы і інвестыцыі. 21-23.05. спрыяльныя асобы, пакажаш сваю асаблівасць і таленты. 20.05. — ідэальны час на пачатак новых дзеянняў, рэалізацыю планаў. Многа сілы і шчасця. З 22.05. можаш ідэальна трапіць у рынак. Без крайнасцей у дыеце, хоць не еж абы-чаго.

**(22.05. — 22.06.)** Да 20.05. не найлепшая форма, таксама псіхічная. Не пазбегнеш перашкод, але памогуць людзі. 19-23.05. уратуеш тое, што варта. 21-23.05. да тваіх дзвярэй застукаюць сябры. 21-23.05. можаш не дацаніць цяжкасцей заданняў. 20-24.05. можаш стаць суддзёй ці медыятарам паміж сямейнікамі. 21-23.05. цяжка будзе дагаварыцца з канкурэнцыяй. Інтарэс, які пачнеш у другой палове мая, прынясе вялікія прыбыткі.

**(23.06. — 23.07.)** Будзеш сентыментальны, крыху раздражнены. Лагодзь канфлікты. Праблескі інтуіцыі, будзеш ведаць, што рабіць і выбярэш самыя карысныя выхады. Найлепшы дарадчык цярплівасць, нічога не рашай пад уплывам эмоцыі. 19-23.05. падважыцца твой давер да некаторых блізкіх людзей. 21-23.05. не пачынай рамонтаў ці доўгатэрміновых прац. 17-19.05. цяжка будзе запанаваць над адплывам грошай. 19-23.05. кінешся купляць. Зрабі план выдаткаў!

**(24.07. — 23.08.)** Сімпатыя атачэння. Сябры цябе не пакінуць! 21-23.05. не паддайся эмацыянальным шантажам. Неспадзяваныя госці. 17-19.05. публічны выступ ці выказванне; гэта можа быць пропуск для тваёй далейшай кар'еры, нават замежнай! 19-23.05. пайдзі на дыету, ачышчаючую працэдуру. З 22.05. (аж да 28.05.) прыйдзецца папраўляць чужыя памылкі; яны могуць прывесці цябе да геніяльных задум ды натхнення!

**(24.08. — 23.09.)** Нішто цябе не выб'е з рытму, запануеш над кожнай дэталлю. Добра адпачні. 19-23.05. будзе табе шмат чаго хацецца, не адмаўляйся, еж толькі свежае. 21-23.05. не ацані кепска сітуацыю і свае магчымасці. 21-23.05. можаш сустрэць сваё шчаслівае каханне; пачнецца ад інтэлігентнай размовы ці нават спрэчкі. З 22 (да 28.05.) пакажаш поўню сваіх талентаў і магчымасцей.

**(24.09. — 23.10.)** Паспяхова выкарыстаеш свае таленты і здольнасці. Даб'ешся свайго. 21-23.05. паляжы дагары жыватом. Блаславенства для новых сувязей. 20-24.05. пераканаешся, які зрабіў ты добры выбар. 21-23.05. хтосьці дасць табе прапанову супольнага выезду куды хочаш; шыкуйся! 19-23.05. будзе цябе спакушаць увайсці ў падазроны інтарэс ці рызыкоўную інвестыцыю, якая абяцае сыпнуць золатам, але будзь асцярожны і слухай добрых парад.

**(24.10. — 22.11.)** Будзь асцярожным. Магчымыя сардэчныя і кампанейскія ўскладненні. Кіраванне аддай блізкім. Скарпіёны з I дэкады могуць апынуцца ў немалых турботах. Можа, варта нават памяняць працу? Толькі пасля знойдзеш супольную гаворку з новымі калегамі. Шчасце для народжаных на пераломе II і III дэкады; будуць мець добрую руку да інтарэсаў; магчымая ўласная фірма ці нават кар'ера ў шоу-бізнесе! 21-23.05. можаш расчаравацца. З 22.05. (да 28.05.) нагода зрабіць штосьці шалёнае, да чаго ты даўно прымерваўся.

**(23.11. — 22.12.)** 17-19.05. пакажаш свае таленты і ўмеласці. 19-23.05. можаш спаткаць быццам бы ідэал; лепш станьце толькі сябрамі. 21-23.05. высветляцца ўсе непаразуменні. 17-19.05. спытайся ў шэфа пра павышэнне ці прэмію. 21-23.05. могуць кепска кончыцца для цябе фірмавыя інтрыгі. Будзеш сумнявацца, ці ідзеш добрай дарогай.

**(23.12. — 20.01.)** 17-19.05. чакае цябе пахвала, узнагарода. Можа не ўдацца табе пагадзіць прафесійных і хатніх спраў. 21-23.05. не паказвай, што ты такі цвёрды і не прымай лёгка кепскіх прыкмет. 20-24.05. сяброўскае знаёмства можа перакрочыць гэтыя рамкі. 21-23.05. магчымыя дробныя памылкі, але не пацерпяць твая рэпутацыя і пазіцыя.

**(21.01. — 19.02.)** 17-19.05. будзеш прыцягваць шчаслівыя прафесійныя нагоды. 21-23.05. цяжкія справы ва ўстановах. Выйдзеш па-за ўласныя абмежаванні. 21-23.05. глянеш на сваю палавінку іншымі вачыма. Кантакт з мастацтвам прынясе табе многа прыемнасці. 20-24.05. засяродзься на працы на сваіх справах, цані сябе. 22.05. (да 28.05.) моцна ўзрасце твая крэатыўнасць. Плывуць грошы ў тваю кішэню.

**(20.02. — 21.03.)** Неабдуманыя імпульсіўныя рашэнні могуць папсаваць лады з людзьмі. 21-23.05. можаш апынуцца ў сітуацыі без добрага выйсця. 19-23.05. асоба, па якой гэтага ты не спадзяваўся, запрапануе сустрэчу або адазвецца чалавек з мінулага. З 20.05. бярыся за рамонт або купляй жыллё. 21-23.05. пільнуй фірму, нікога не спускай з вачэй. Варушыся!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

# Цуд у Супраслі:
## — Маці Божая не дапускае сюды заразы!

— Цэлы свет заражаны каранавірусам, людзі як мухі мруць, а ў нас... — Марыя шукае адпаведнага слоўца, — *u nas jak u Pana Boga za piecem*... Чатыры асобы адно памерлі. Маці Божая ахінае сваім амафорам Падляшша, не дапускае сюды заразы. Яна ж бачыць, што людзі тут добрыя, мірныя, праваслаўныя...

Марыя, беластачанка ў гадах, прыехала на цуд з нявесткай і ўнукамі.

— Я ўжо каторы раз тут, — кажа жанчына, — прыеду, пакланюся Іконе, пады-ду да міравання і я быццам адноўлена. Грэе штосьць сэрца, на душы супакой. Міне два-тры дні, зноў сюды цягне, так хочацца, што на крылах бы ляцела... Дзеці ў мяне як дзеці, пасадзяць у машыну і зноў вязуць у Супрасль. Раз паліцыя затрымала, пытае: з якой мэтай падарожнічаем? То мы схітрылі, кажам: да самотнай сваячкі-інвалідкі едзем, яду і лекі трэба даставіць. Назвалі імя і адрас старэчы, бо гэта мая сяброўка адрас адной бабулі падказала. Праўда, у манастыр тады не заязджалі, пастаялі на стаянцы ў цэнтры, многа тады паліцы круцілася, правярала ўсіх з беластоцкімі нумарамі, штрафавалі тых, што на цуд з'ехаліся...

— А вы прыязджаеце з нейкай хваробай, сямейнай праблемай? — стаўлю асабістае пытанне.

— Я то за цэлы свет малюся, — чую ў адказ, — і за нашы ўлады, каб паразумнелі і дагаварыліся ў справе выбараў. Каб крызіс не даканаў нашых дзяцей і каб усё вярнулася да нармальнасці.

Паломніца Анна з Беластока таксама не першы раз прыехала на цуд. У гэты раз прывезла мужа, які з-за прымусовай ізаляванасці перастаў есці і страціў сон. І зараз сохне ў вачах ды баіцца да лекара схадзіць, каб каранавірус не схапіў. Анна спадзяецца, што Божая Маці яго зматывуе. Дасць сілу і адвагу змагацца за жыццё. Усё, вядома, ад ласкі Божай залежыць.

— Мне дапамагло, — кажа заклапочаная жанчына, — а ці яму дапаможа, *будзе відно*...

* * *

Супрасльскі цуд не надта прыкметны. На стаянцы каля манастыра стаялі толькі дзве машыны з бельскімі і беластоцкімі нумарамі. Апошнія схаваліся ў бакавых вулачках і ў завулках. Маю ўвагу прыкавала галерэя кандыдатаў у прэзідэнты РП, якія ў згоднай шарэнзе красаваліся ля той жа апусцелай стаянкі. Побач сябе віселі Кідава-Блоньска, Дуда, Босак, Галоўня... Якраз выбіў поўдзень і над мястэчкам зайгралі званы з вежаў касцёла і царквы. Жыццярадасная мелодыя і ўсмешкі кандыдатаў на плакатах прамовілі як кадр з фільма пра ідэальнае Падляшша «U Pana Boga za piecem»:

— Jak do Ikony, to proszę do cerkwi, — пакіравалі мяне ў манастырскай браме, — Akurat zaczyna się molebień.

Ля Іконы Маці Божай, апякункі жыццядайных крыніц, выстойвала дзевяць паломнікаў. Трэцяя частка з іх засланіла вусны і нос масачкай. Усе захоўвалі ад сябе адлегласць двух метраў, з-за чаго царква здавалася запоўненай. Пасля малебна паломнікі падыходзілі да Іконы і да міравання. На месцы можна было набыць папяровую копію цудоўнай іконкі (за 2 злоты), і прылажыць яе да цудоўнай Іконы. Маю ўвагу звярнула сямейка, якая закупіла малебен *za pomyślne zdanie matury syna*. Той жа «матурыст» скораны выстойваў разам з бацькамі, карыстаючы відавочна дыстанцыйным навучаннем. На малебне, які адбываўся дзесяць хвілін пазней, я прыкмеціла знаёмую настаўніцу.





■ Ян Грыгарук

— Я не веру ў гэтае навучанне анлайн, — заявіла яна, — на маю думку гэта страчаны год. Я прыехала памаліцца, каб хутчэй усё вярнулася да нармальнасці. Каб зноў былі нармальныя ўрокі.

Настаўніца таксама другі раз прыехала на цуд.

— Першы раз я была ў сераду, калі служылі акафіст да Супрасльскай Божай Маці. Тады трэба было стаяць ажно гадзіну ў чарзе да міравання. А сёння ўсё так хутка...

Малебен ля Іконы Божай Маці, апякункі жыццядайных крыніц, служаць штогадзінна.

* * *

На чарговым малебне было ўжо пятнаццаць асоб.

— Ці многа наведала ўжо цуд? — пытаю ў іканаграфа Яна Грыгарука, які дзяжурыў за свячным прылаўкам,

— Вельмі многа, сотні, а нават тысячы, — чую ў адказ. — І ведаеце, — дадае ўзрушаны мой суразмоўца, — вельмі многа католікаў тут. Бывае, у час малебна, адны католікі стаяць. Ды не толькі звычайныя вернікі, прыязджаюць манашкі, ксяндзы. Усе нам дзякуюць за магчымасць малітвы ў святым месцы.

Ян Грыгарук апавядае пра сужонства, якое прыехала ажно з Гданьска. А гэта было ў час, калі гасцініцы і гастэлі не працавалі, то яны памаліліся, селі ў машыну і назад дамоў адправіліся.

— Адкуль у Гданьску ведаюць пра цуд? — пытаю.

— Ведаюць, бо на ўсіх каталіцкіх сайтах пайшла інфармацыя пра наш цуд.

Пытаю, ці ёсць ужо нейкія звесткі пра аздараўленні:

— Здарылася нешта такое цудоўнае... — мой субяседнік на момант спыняе размову, а потым сцішаным голасам кажа: — Жанчына з Беластока прыдбала ў нас копію іконкі і прылажыла яе да той, што мірачочыць. І ўжо ў хаце паставіла яе пры іконах і асвечаных вербах перад Пасхай. І тыя вербы, якія сохлыя стаялі без вады, зазеляніліся. Жанчына даслала нам здымак гэтага цуду і мы паставілі яго на манастырскім сайце.

Ян Грыгарук, які ўжо восем гадоў нясе мірскую паслугу пры манастыры, не раз быў сведкам кранальных падзей, якіх не патлумачыш розумам. Шмат людзей аздаравела, атрымала суцяшэнне або паспяхова вырашыла жыццёвыя праблемы.

— Трэба памятаць, што ў апошнія дзесяцігоддзі толькі дзве іконы ў нас мірачочыла. Першы цуд адбыўся ў Тарэспалі, другі ў нас 23 красавіка, напярэдадні свята Іконы Маці Божай, апякункі жыццядайных крыніц. Цуд ужо абнавіўся чатыры разы. І верагодна ён будзе датуль, пакуль будуць прыязджаць людзі. Што гэта значыць — ніхто дакладна не ведае, час усё пакажа. Але скажу вам, — кажа Ян Грыгарук нам вельмі радасна на душы, калі католікі прыязджаюць у наш манастыр і вітаюцца *Хрыстос Уваскорос!*

* * *

Ікона Маці Божай Жыццядайная Крыніца ўяўляе сабой высокі келіх, устаўлены ў пасудзіну з вадой. Над ім віднее выява Маці Божай з Дзіцяткам на руках. Гісторыя ўзнікнення датычыць здарэння ля крыніцы пры г.зв. Залатых Варотах у слаўным градзе Канстанцінопалі ў 450 годзе. Гісторыя апавядае пра сляпога вандроўніка, які прамыўшы вочы ў крыніцы, аздаравеў і пабачыў нанова свет. У гэтым месцы ўзвялі царкву ў гонар Жыццядайнай Крыніцы, а месца ў хуткім часе праславілася цудамі. Ікону Жыццядайная Крыніца асабліва ўшаноўваюць у Грэцыі і Расіі ды выносяць яе ў час эпідэмій і хвароб.

Супрасльская Ікона Жыццядайная Крыніца была распісана 20 гадоў таму, яшчэ пры архімандрыце Гаўрыіле. Верагодна, яна пачала мірачочыць ужо ў пачатку Вялікага посту. Да такога погляду схіляе вялікая колькасць міра, якое непрыкметна накапілася пад рызай. Цуд прыкмецілі на Светлым тыдні, 23 красавіка, якраз напярэдадні Свята Іконы Божай Маці Жыццядайная Крыніца.

Як паінфармаваў нас Ян Грыгарук, з'ява мірачочання абнавілася ўжо чатыры разы.

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960